PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 3667714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 40 (1847) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 6 КАСТРЫЧНІКА 1991 Г. ЦАНА 1000 ЗЛ.

## СУДЗЯЦЬ ЗА ГРАБАРКУ



— Працяг

17 і 18 верасня 1991 года ў Ваяводскім судзе ў Беластоку працягваўся працэс Яна С. — абвінавачанага ў падпаленні царквы Праабражэння Гасподняга на Грабарцы.

У некалькі хвілін пасля дзевятай гадзіны канваіры ўвялі ў залу абвінавачанага, які гэтым разам нешта жаваў. Вялікая частка сведкаў, якія былі скліканы судом на расправу 17 верасня, не з'явілася, хоць большасці з іх паведамленні былі даручаны. Новае святло на асобу абвінавачанага кінулі паказанні былога функцыянера паліцыі, які ў часе сваёй кар'еры меў службовыя дачыненні да Яна С.

— Яна С., — казаў ён, — ведаю з добрага боку, аднойчы пры яго дапамозе ўдалося нам ударэмніць план уцёку з арышта.

— Ці такім чынам Ян С. супрацоўнічаў з паліцыяй?

— Не.

— Ці гэта ўся станоўчасць ягоных паводзін?

— Не толькі, Ян С. заўсёды быў ахвотны выконваць невялікія працы, парадкаваць ды гэтаму падобнае.

— Чаму вы яго так адзначаеце?

— Таму, што не рабіў нам аніякага клопату.

17 верасня суд дапытваў таксама пажарніка, які кіраваў акцыяй гашэння царквы.

— Вельмі лёгка, — казаў пажарнік, — было вызначыць, з якога месца пачаўся пажар. Пачаўся ён з заходняга боку, у сенцах, каля ўнутраных дзвярэй — там знайшлі мы найбольш выпаленых элементаў. Іх лік паменшваўся ва ўсходне-паўночным напрамку — туды дзьмуў вецер. На сцяне, ад якой пачаўся пажар, была электрычная інсталяцыя. Узнікла тады пытанне, ці пажар часам не пачаўся з інсталяцыі? Паводле паказанняў манашак, электрычнасць гэтае ночы была выключана. Эксперты з паліцыі, — працягваў пажарнік, — гэта пацвердзілі: яны знайшлі рэшткі выключальніка і ў лабараторыі акрэслілі, што знаходзіўся ён у выключнай пазіцыі.

— Ці нейкае вонкавае ўздзеянне, прыкладна, высокая тэмпература, можа паўплываць на змену пазіцыі гэтага выключальніка?

— Гэта немагчыма, — цягнуў пажарнік. — Такім чынам мы выключылі электрычную інсталяцыю як прычыну пажару. Пасля доследу прыйшлі мы таксама да вываду, што і свечкі не маглі быць гэтай прычынай.

( Працяг на стар.2 )



*Дуэт: Кацярына Крысевіч ( справа) і Віялета Шымосюк ( абедзве з ліцэя № VI у Беластоку ), які быў вылучаны ў конкурсе.*

## НАЙЛЕПШ БАВІЛІСЯ АРТЫСТЫ

Мела быць камерна: без трансляцыі па тэлебачанню, без ніякіх там амфітэатраў — ціха, скромна, у зале правінцыяльнага тэатра навосень 1991 года.

Месца акцыі: Беласток, сталіца як бы польскай Усходняй Сцяны — кангламерату нацыянальнасцей.

Акцыя: Фестываль беларускай, літоўскай, расійскай і ўкраінскай песні „Беластоцкія мальвы '91", які ўвайшоў на месца штогадовага і даволі гучнага Фестывалю савецкай песні ў Зялёнай Гуры, закончыўшага сваё існаванне, але прабіўшага дарогу ў мастацкі свет не аднаму вядомаму сёння польскаму спеваку; сярод артыстаў польскай эстрады амаль няма такіх, што не прайшлі праз гэты фестываль.

Час акцыі: субота і нядзеля 21—22 верасня гэтага года.

Мела быць камерна — і камерна выйшла, нягледзячы на каштоўную аправу, якую зафундаваў фестывалю яго спонсар — Міністэрства культуры і мастацтва.

Камерна — бо нават на ўрачыстым канцэрце лаўрэатаў у нядзелю 22 верасня былі яшчэ свабодныя месцы на балконе невялікага ўсё ж тэатра Аляксандра Вянгеркі. А пра суботу 21 верасня дык проста гаварыць не хочацца. Калі яшчэ на першым канцэрце а 17-ай гадзіне была запоўнена палова залы на конкурснай частцы, дык на выступленні вядомых артыстаў з Варшавы, як Данута Станкевіч ці Анджэй Зауха, ды заграгічных гасцей засталася палова тае паловы, што была на пачатку — у асноўным сваякі і блізкія спевакоў з усяе Польшчы, акрэдытаваныя журналісты ды

( Працяг на стар. 6 )

## У ПРЭЗІДЫУМЕ ГП БГКТ



22 верасня г.г. у Гайнаўцы адбылося пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ, прысвечанае ў асноўным праблемам Беларускага музея. Перад пасяджэннем члены Прэзідыума ГП пазнаёміліся з ходам будаўнічых прац. Зараз у здадзеным у карыстанне ў мінулым годзе будынку „А" вядзецца грамадская і выставачная дзейнасць (у той час можна было паглядзець выстаўку карцін Тамары Тарасевіч і часовую выстаўку экспанатаў). Побач узведзены ўжо муры будынка „Б" і першага паверха будынка „Ц". Затым старшыня Грамадскага камітэта пабудовы музея Канстанцін Майсеня паінфармаваў сабраных аб праблемах Камітэта. У гэтым годзе Міністэрства культуры і мастацтва прызначыла на пабудову музея 500 мільёнаў злотых. Да гэтай пары выкарыстана ўжо 230 мільёнаў. Як выкарыстаць рэшту грошай? Ці завяршыць будову ў сырым стане будынка „Ц", ці пачаць унутраныя работы ў будынку „Б"? Прэзідыум ГП БГКТ падтрымаў рашэнне Грамадскага камітэта будаваць другі паверх будынка „Ц".

Янка Хіліманюк звярнуў увагу на тое, што ўжо пара вырашаць праблемы статута музея і стварыць яго дырэкцыю. Да гэтай пары будаўнічыя працы вядуцца на грамадскіх пачатках, але такім чынам немагчыма будзе стварыць сапраўдны музей і забяспечыць яго функцыянаванне. Дзеля гэтага будуць патрэбныя спецыялісты па музейнай справе і штаты для іх.

Старшыня ГП Аляксандр Баршчэўскі заўважыў, што ў апошні час зменшылася колькасць складчын ад грамадства і вінавата таму не толькі складаная эканамічная сітуацыя, але і адсутнасць дзеяннаў у гэтым напрамку сярод насельніцтва. Запрапанаваў ён пачаць працу з мэтай уключыць солтысаў у справу пабудовы музея. Першым крокам у гэтым кірунку будзе запрашэнне солтысаў на інаўгурацыю культурна-асветнага года БГКТ, якое адбудзецца ў Гайнаўцы.

Прэзідыум ГП вярнуўся да пытання гаспадарчай дзейнасці Таварыства. У сённяшняй сітуацыі Таварыству без гаспадарчай дзейнасці не абыйсціся. Дзеля ўстанаўлення гаспадарчых кантактаў дэлегацыя БГКТ у кастрычніку выедзе на Беларусь.

На заканчэнне пастаноўлена адкрыццё культурна-асветнага года правесці 13 кастрычніка ў Гайнаўцы, а пленарнае пасяджэнне ГП БГКТ — 20 кастрычніка ў Беластоку.

(л)




— 57 —

Сярод прыяцеляў ідэі будовы Беларускага музея ў Гайнаўцы знаходзіцца таксама Міністэрства культуры Беларусі. Яно выразна падтрымлівала дзеянні фонда беларускай культуры і таварыства „Радзіма" ў карысць музея. Давялося мне некалькі разоў сустракацца і з міністрам культуры Вайтовічам і з яго намеснікамі: Рылаткам і Гілепам. У часе размоў адчувалася, што праяўляюць яны шчырую зацікаўленасць музеем і стараюцца яму дапамагчы. Няма сумненняў, што без арганізацыйнай і фінансавай падтрымкі з боку Міністэрства культуры Беларусі не ўдалося б арганізаваць вялікую мастацкую выстаўку ў кастрычніку 1990 года. Аб прыхільных адносінах Вайтовіча і яго міністэрства да Беларускага музея пераканаўся я ў часе візіту, нанесенага ім у Польшчу па запрашэнню міністра культуры і мастацтва Польшчы Марка Раствароўскага. Быў я запрошаны на спатканне, якое адбылося ў беластоцкага ваяводы, у будынку Беларускага музея ў Гайнаўцы, урэшце ў Варшаве. У часе ўсіх гэтых сустрэч міністр Вайтовіч і члены яго дэлегацыі падкрэслівалі неабходнасць фінансавай падтрымкі для Беларускага музея з боку Міністэрства культуры Польшчы. Беларускія госці гаварылі, што Беларусь ужо дзесяткі гадоў утрымлівае Музей Міцкевіча ў Навагрудку, Музей Элізы Ажэшка ў Гродне і што намерваецца арганізаваць музеі Манюшкі і Касцюшкі ў іх родных мясцовасцях. І гэта, мабыць, было рашаючым момантам у акрэсленні адносін польскага міністэрства да ідэі фінансавай падтрымкі Беларускаму музею. У канцы візіту міністра Вайтовіча, пад час урачыстага прыёму, афіцыйна было сказана, што Міністэрства культуры перадасць у фонд пабудовы музея ў Гайнаўцы 500 мільёнаў злотых. Праўда, мы выступалі з просьбай

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

даць нам суму паўтара мільярда, аднак трэба сказаць, што беручы пад увагу эканамічны стан нашай дзяржавы, атрыманая намі сума паўмільярда злотых ёсць сумай вялікай. І таму я з сапраўдным задавальненнем і шчырасцю падзякаваў як аднаму, так і другому міністру за так істотную датацыю. Не хацеў бы я, каб са сказанага мною хтосьці падумаў, што Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы дало нам паўмільярда злотых не па ўласнай волі, а дзякуючы націскам з боку беларускай інтэлігенцыі. Вядома, што калі б не было добрай волі з боку нашага міністэрства, дык ніякая прэсія звонку нічога не дала б. Атрыманне намі на пабудову музея паўмільярда злотых у 1990 і 1991 годзе сведчыць аб тым, што Міністэрства культуры сур'ёзна і прыхільна адносіцца да таго, што з'яўляецца гордасцю і Беларускага таварыства, і ўсёй беларускай меншасці ў Польшчы, — Беларускага музея ў Гайнаўцы. Вялікая фінансавая дапамога музею з боку Міністэрства культуры сведчыць аб тым, што нашы многагадовыя намаганні, каб выйсці з-пад апекі Міністэрства ўнутраных спраў, былі поўнасцю ўматываваны.

АЛЕСЬ БАРСКІ

*****************************************************************************************




**Вытаўтас Ландсбергіс** — старшыня парламента Літвы абвінаваціў польскія сродкі масавай інфармацыі ў тым, што разгарнулі яны антылітоўскую кампанію, і абвяргаў закіды, што літоўскія ўлады быццам прыгнятаюць польскую нацыянальную меншасць у Літве.

**Адбыўся апошні нечарговы з'езд Камсамола**. 400 дэлегатаў, якія прадстаўлялі дваццацімільённую маладзёжную арганізацыю ў СССР, прынялі рашэнне аб яе самароспуску.

**У Сапоцкіна**, на Гродзеншчыне, адбылася ўрачыстасць пасвячэння крыжа-помніка на магілах ген. Юзэфа Альшыны-Вільчынскага і шасці салдат, якія загінулі ў верасні 1939 года. З прамовай на магілках выступіла консул Рэчыпаспалітай Польскай у Менску **праф. Альжбета Смулкова**.

**Парламент Беларусі** прыняў рашэнне аб пераўтварэнні часткі Белавежскай пушчы на яе тэрыторыі ў нацыянальны запаведнік. Факт гэты ў асяроддзі эколагаў лічыцца як адзін з самых важных падзей у ахове прыроды ў Сярэдняй Еўропе. Дазволіць ён прысвоіць Белавежскай пушчы па абодва бакі граніцы статут міжнароднага біясфернага запаведніка.

**Беластоцкі ваявода Станіслаў Пруціс** заявіў гатоўнасць прыступіць да Форума ваяводстваў Усходняй Сцяны. Форум будзе супольна вырашаць праблемы гранічнага руху і супрацоўніцтва з суседнімі рэспублікамі, а таксама стварыць супольнае прадстаўніцтва для кантактаў з цэнтральнымі ўладамі. Канцэпцыя Форума была прадстаўлена на нядаўняй сустрэчы прэм'ер-міністра **Яна Кшыштофа Бялецкага** з ваяводамі ў Белай-Падляшскай. Гэтае пагадненне можа быць першым крокам да набліжэння ваяводстваў, якія ў будучым спалучацца ў рэгіёны.

З удзелам старшыні Краёвай камісіі **Мар'яна Кшаклеўскага** адбыўся нечарговы з'езд прафсаюзаў „Салідарнасць" — Рэгіёна Беласток. Рэвізійная камісія беластоцкай „Салідарнасці" сфармулявала многа закідаў у адрас Праўлення Рэгіёна і яго старшыні. Быў ухвалены вотум недаверу, у выніку чаго старшыня беластоцкай „Салідарнасці" **Станіслаў Марчук** падаўся ў адстаўку. Абавязкі старшыні да новых выбараў, якія будуць праведзены ў студзенілютым 1992 г., выконваць будзе намеснік старшыні **Войцех Ловец**.

У **Подварках** (гм. Міхалова) была абакрадзена царква Уздзвіжання Крыжа Гасподняга, вядомая як Пяценка. Злачынцы забралі цудоўную ікону Распяцця Хрыстова і іншыя іконы з XVIII-XIX стагоддзяў.

**Прадпрыемства „Хортэкс"** з Сямяціч вядзе скупку бульбы на экспарт у Савецкі Саюз. „Хортэкс" плануе купіць 600 тысяч тон і плаціць па 50 тысяч злотых за цэнтнер. Гэтай магчымасцю карыстаюцца перш за ўсё сяляне з ваколіц Сямяціч.

Самаўрадавы ваяводскі сеймік падтрымаў прапанову ўлад гміны Кляшчэлі аб **аднаўленні гарадскіх правоў Кляшчэлям**.

## ДЗЕ ГАЛАСУЕМ НА БЕЛАРУСКІХ КАНДЫДАТАЎ

У нашу рэдакцыю прыходзяць лісты з пытаннем, у якіх ваяводствах можна галасаваць на кандыдатаў Беларускага выбарчага камітэта. Пішуць перад усім людзі з-па-за Беласточчыны, якіх лёс закінуў у глыбокую Польшчу. Да іхняга ведама змяшчаем ніжэй спісак выбарчых акругаў (з распісаннем на ваяводствы), у якіх Беларускі выбарчы камітэт зарэгістраваў сваіх кандыдатаў.

Вось спісак ваяводстваў, у якіх можна галасаваць на кандыдатаў Беларускага выбарчага камітэта ў Сейм.

**1. Беластоцкае і Сувальскае ваяводствы** (Выбарчая акруга н-р 25).

Кандыдаты:

Стахвюк Віктар
Ляшчынскі Васіль
Сельвясюк Валянцін
Целушэцкі Міраслаў
Багроўскі Пятро
Максімюк Аляксандр
Швед Віктар
Дамброўскі Васіль
Лукошык Уладзімір
Клімюк Анна
Крук Пятро

**2. Горад Варшава** (Выбарчая акруга н-р 1).

Кандыдаты:

Пячонка Міхал
Латышонак Алег
Максімюк Ян

**3. Гданьскае ваяводства** (Выбарчая акруга н-р 2).

Кандыдаты:

Куптэль Міхал
Іванюк Анна
Прышчэпка Пятро
Касцюкевіч Міхал
Буцкі Юры
Германюк Міхал

**4. Кашалінскае і Слупскае ваяводствы** (Выбарчая акруга н-р 21).

Кандыдаты:

Самойлік Аркадзь
Шарамета Раман
Крысюк Юры

**5. Ольштынскае і Эльблонгскае ваяводствы** (Выбарчая акруга н-р 23).

Кандыдаты:

Гаўрылюк Андрэй
Болдак-Яноўская Тамара
Яноўскі Антон
Матавіцкі Юры

**6. Вроцлаўскае ваяводства** (Выбарчая акруга н-р 11).

Кандыдаты:

Каліна Юры
Міpановіч Антон
Раманюк Юры

**7. Сядлецкае і Бела-падляшскае ваяводствы** (Выбарчая акруга н-р 26).

Кандыдаты:

Яновіч Сакрат
Стэльмашук Міхал
Карпюк Рыгор
Грыгарук Юры
Мордань Ян




* Мітрапаліт Васіль у Бельску.
* Беларусы на каве ў Гданьскага віцэ-ваяводы.
* Жыве сабе спакойна і павольна Беларусь!
* Цікавінкі з амерыканскага жыцця.
* Чарговыя кандыдаты ў Сейм.
* Бібліяграфічны куточак.



## СУДЗЯЦЬ ЗА ГРАБАРКУ

**( Працяг са стар.1 )**

У такім выпадку найбольш праўдападобная прычына пажару — гэта падпаленне.

— Ці лёгка можна было падкласці агонь, ці хапіла б дзеля гэтага адной запалкі?

— Адной запалкі — не, але некалькіх анучаў дастаткова, каб заняліся сцены.

— Ці каля дзвярэй было найбольш выгаднае месца, каб падкласці агонь?

— Не толькі, але гэтага дня — так, бо пажару спрыяў вецер.

У часе допыту 17 верасня абвінавачаны Ян. С. паводзіў сябе спакойна. Некалькі разоў ставіў сведкам пытанні. 18 верасня а 10-ай гадзіне адбылася ў Ваяводскім судзе праекцыя відэазапісу — рэканструкцыя здарэння. Ян С. расказваў пра пажар, адказваў на пытанні паліцыі — рабіў уражанне ахвотнага да супрацоўніцтва.

Працяг працэсу ў кастрычніку.

АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 382

# НАД ДНЁМ ПОХІЛЯНА

Паэтычная творчасць Зосі Сачко ўжо многія гады ўзбагачае літаратурныя здабыткі аўтараў, якія складаюць Беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавежа". Як адзіная сярод згуртаваных у ім паэтаў піша яна на беларускай гаворцы, якую вынесла з хаты і якой карыстаюцца жыхары яе роднай вёскі. Пакідаючы літаратурную мову, яна свядома выбрала сабе месца ў літаратуры; не цікавіць яе ні Парнас, ні „высокая" творчасць, а задавальняюць яе „перыферыі літаратуры".

Выбар мовы не з'яўляецца аднак — і быць не можа — мерытарычным крытэрыем ацэнкі тае паэзіі.

Зося Сачко дэбютавала ў 1982 годзе томікам вершаў „Пошукі", ужо загаловак якога аддае сутнасць справы. Кніжка гэта — зборнік ранніх вершаў, у якіх паэтэса шукае ўласную творчую формулу, паэтычныя канцэпцыі, а таксама магчымасці і спосабы перакладу ў ім штодзённасці і звычайнасці на мову мастацтва, што робіць яна выдатна (напр.: „Вэчур капусты", „Сказка о моіх поворотах на вёску"). У дэбютанцкім зборніку з'яўляецца таксама плынь філасафічнага роздуму над светам і шэраг экзістэнцыяльных разважанняў у паэтычным запісе. І менавіта яны галоўным чынам дайшлі да голасу ў другім, сталым зборніку вершаў „Над днём похіляна", які выйшаў у Бібліятэчцы Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа", рэдагаванай выдатным паэтам Янам Чыквінам.

У размовах, якія гераіня вершаў Зосі Сачко вядзе сама з сабою, выяўляюцца ўсялякія сумненні і непакоі чалавека нашых часоў — быццам бы свабоднага, які ведае праўду-матку і які жыве згодна са сваім сумленнем, але аднак поўнага прагі, які няспынна шукае трывалых і надзейных вартасцяў. Мусіць адсюль і выцякаюць падсвядомыя схільнасці паэтэсы да афарыстычнасці, так прыкметнай у большасці тэкстаў, рэкамендаваных у апошнім зборніку. Гэта добрая якасць тае паэзіі.

Зося Сачко, будуючы свой паэтычны свет, заклінае яго словамі, якія атрымала ў спадчыну ў дзяцінстве; гэта менавіта яны вызначаюць від яе ўражлівасці і рашаюць аб багацці магчымасцяў успрымання свету. Для чытача — гэта словы з іншага кода, якія ствараюць „першую мову" паэтэсы.

Гераіня гэтых вершаў зняволеная ў свеце паэзіі, паражана яго мізэрнасцю і спакушана красой, гаворыць малітвы, псалмы і гімны. Калі паэтэса моліцца сваімі вершамі за сябе і за нас, то тады тым больш ажыўляюцца яе і нашыя боязі, турботы і духоўныя непакоі. І ў гэтай плоскасці, мяркую, шукаць трэба літаратурныя сувязі з творчасцю польскага паэта — Тадэуша Новака, на якога спасылаецца Зося Сачко; перш за ўсё прыкметны яны ў вершах з ранняга перыяду творчасці.

Апрача тэматычных сувязяў з польскай паэзіяй паэтычная творчасць аўтаркі „Пошукаў" застаецца ўпісанай у кантэкст беларускай паэзіі, што асабліва відаць у рытміцы верша, але таксама ў рэхах нацыянальных матываў, так характэрных літаратурнай творчасці ўсіх „белавежцаў". Мова, на якой яна піша, сведчыць аб моцным адчуванні супольнасці. Людская супольнасць з'яўляецца прызначэннем гэтай, а не іншай Зямлі, якую ніколі нельга пакінуць, хаця вяртанне ў родную хату і ў бацькоўскую старонку здаецца непраўдападобным.

І хаця крытыка з'яўляецца галіной суб'ектыўных выпрабаванняў і ацэнак, я перакананa, што паэтычныя пошукі Зосі Сачко прынеслі вартасныя і цікавыя вырашэнні, аб чым красамоўна сведчыць выдадзены апошнім часам зборнік. Паэтэса адракаецца ад „гульні словамі" ў карысць яго праўдзівасці і важкасці: „ждэш на слова правдзівшэ од тэбэ". Выразна кіруецца яна ў бок філасофскай рэфлексіі над самой сабою, над светам, над кожным належна пражытым днём.

ТЭРЭСА ЗАНЕЎСКАЯ

*Зося Сачко, Над днём похіляна, Беласток 1991, Бібліятэчка Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" пад рэдакцыяй Яна Чыквіна.*

************************************************

ЯН ЧЫКВІН

## ВОСЕНЬ

(трывожная альба)

Асенні дзень гарыць агнём асенніім,
З траў злекацелых сыплецца апошняе насенне
І верас тлее несмяротным неспакоем.
І я іду, таму што сэрца б'ецца шчэ жывое.

Асенні сум гарыць ажоўклай горыччу асенняй,
Бяспамяцтва ва ўсім пад неба схаладнелага скляпеннем,
Пустэча ад пустэчы вырывае пустазвоны —
Усё іду, таму што мысля мыслю гоніць.

Асенні боль плыве ў душы воблакам асенніім,
Зніжэла сонца, падаўжэлі пажыццёвыя глухія цені.
Знявечаны, самотны, гнаны неспакоем,
Яшчэ, яшчэ іду — адкуль, за чым і што перада мною?



# ВЯРТАННЕ МАРДАЦІКА

Чаго трэба Мардаціку? Грошай! Не меў ён іх, пакуль быў на гаспадарцы. Трудзягам мала плацяць. Колькі таго заробку за кормніка? Або на збожжы?

— Вёска не прападала, бо не было куды ёй падзецца; — казаў Мардацік за чаркаю ў Вялікдзень. І меў рацыю, хоць не сушыў галавы думкамі. Дзівіўся ён калісьці, чаму позна настаў камунізм, у які няма багатых і ніхто не сядзіць без хлеба. Мардаціку спадабалася такая палітыка; паздаравеў, бо пабачыў, што заробленасць не скончыцца дабром — ні яму, ні дружыне.

— Ты поля і хлява не трымайся, — сказаў Мардацік сыну, яшчэ пры Сталіне. — Шукай месца на фабрыцы.

А малады, як малады: абы лягчэй зажыць. Гэтак яно, дарэчы, і сталася. Аднак, асталяваўшыся ў горадзе, выглядваў падмогі з хаты. Прыязджаў на жніво, а бывала, і ўвосень — намахацца цэпам. Цягавіты хлопец.

— Сястру забяры, — агледзеўся Мардацік. Дачка брыняла і мог да яе дурань які пасватацца. — Лепшы замуж там за галышом, чымсь тут за кулаком.

У брата яна доўга не набыла: яе ўзяў шкляны гутнік. Мужчына з вусамі, байкі, каб не тыя ўсё кепікі ягоныя з мужыкоў... Прыкусіў пралетар свой язык, калі запаўцеў аўта купіць (Мардацік папрадаў каровы; баба ўжо не мела сілы даіць іх).

Збыўшы каня, ажанілі сына. Беластоцкі цесць яго запатрабаваў трохпакаёвую кватэру з тэлефонам (Мардацік парэзаў авечкі, дапрадаўшы сенакос на Козіцы і дзедаў ельнік у Верхлесе).

Прыходзілі купцы і на хату з будынкамі.

— А нашто вам?! — не стрымаўся Мардацік, спалохаўшыся самога сябе.

— Нашым панскім дзецям на дачу будзе, — адказалі яму, папраўіўшы нязвычныя ім гальштукі на загарэлых пад бульбяную кашу шыях.

Мардацік пагаліўся, бы на смерць; прыстрыг сабе кучму, дастаў з куфра шлюбны касцюм, і, пакінуўшы старую хварэць у пасцелі, падаўся ў дарогу: да сына, а затым і да дачкі. Яны, усё роўна як чакалі яго, загаварылі ў адзін голас:

— Прадавайце, тату!

— Не адразу, можа...

— Каму потым спатрэбіцца тое?! — заенчылі.

— А дзе ж жыцьму з маткаю?

— Да нас перабірайцеся!

Мардацік пахаладзеў. Так і падумаў: узяць за купчую, то яны возьмуць, нават і пасварацца, а сам ён з бабкаю служкамі ў іх прымосцяцца. Унукаў гушкаць, па-польску „пшэкаць" не ўмеючы (бо ж не з беларускай мовы хлеб есць Беласток).

Варочаўся Мардацік у вёску, як на суд рыхтуючыся, які не адбываўся. Не выйграе яго. Дзеці не спрыяюць бацькам? А ці павінны яны, маючы перад сабою ўсё доўгае жыццё? Ідучы ад аўтобусавага прыстанку сцежкаю ў жаваранкавых жытах, біўся ён з недарэчным успамінам пра квактуху, якая, выседзеўшы качанятаў, утапілася ў лужку за выганам, калі тыя падраслі і палезлі плаваць...

Мардацік запыніўся, як укопаны.

САКРАТ ЯНОВІЧ

ВІКТАР ШВЕД

## СУСЕДЗЯМ

Суседзі нашыя славянскія,
Палякі — блізкія суседзі!
Не будзьце ж вы занадта панскія,
Бо на адным мы возе едзем.
Правы аднолькавы нам дадзены,
Аднолькавыя абавязкі.
Не хочам быць мы абкрадзены,
Не хочам з вашае жыць ласкі.
Не насылайце нам асаднікаў,
Як гэта ўжо было калісьці,
І не шукайце між нас здраднікаў,
Што здрадзяць для свае карысці!
І не лавіце ў нашым побыце
Чужых налётаў усялякіх!
Украінцаў вы з нас не зробіце
І не загоніце ў палякі.
Хоць мы і са сцяны усходняе,
Аднак з жывой яшчэ душою.
За беларускае, нам роднае
Стаім мы цвёрдаю сцяною.
Былі мы доўга пад прымусамі
І пагарджанымі заўсёды,
Ды асталіся беларусамі,
Лічыцца сталі мы народам.
Не хочам быць безабароннымі,
Мы будзем за сваё змагацца.
Даволі быць заўжды прыгоннымі,
Людзьмі нарэшце хочам стацца!

АЛЕСЬ БАРСКІ

x x x

Ідэю увядзення
Мовы роднай
У сферы розныя жыцця
Краіны
Чыноўнікі сустрэнуць згодна
З драпежнасцю ільвінай.
Таму я спачуваю вам,
Сыны народа.
Чакаюць вас і здзекі
І аковы,
Калі пасмееце узняць
Штандар свабоды
Над родным словам.
Без рызыкі адкрыццяў
Не бывае —
Мусіць рашыцца нехта
Рушыць смела.
Без барацьбы
Наш вораг
Не пакіне краю
І з чорнага наш край
не стане Белым.

# УХАПІЦЬ, ДЗЕ ДАСЦА

1-га верасня гэтага года ў варшаўскай галерэі „Захэнта" была адчынена выстава польскіх мастакоў, якія жывуць і працуюць за мяжой; называецца яна „Мы ёсць", будзе працягвацца да канца кастрычніка. Удзельнічае ў ёй 165 мастакоў з цэлага свету. Суправаджае яе шэраг імпрэз, якія пачаліся ўжо ў ліпені і будуць працягвацца да лістапада: выставы, навуковыя семінары, прэс-канферэнцыі, праекцыі фільмаў.

Выстава шырока рэкламавалася ў мас-мідыях. Мела многа спонсараў, ад банкаў, прадпрыемстваў, рознага тыпу фондаў — па прыватныя асобы. На адкрыцці прысутны быў прэм'ер-міністр Кшыштоф Бялецкі, а пісьмо з віншаваннем прыслаў прэзідэнт Польшчы Лех Валэнса. Адзін каталог каштаваў 220 тысяч злотых.

Ужо сама формула выставы — сабраць артыстаў з розных краін, рознага ўзросту — спарадзіла немалыя цяжкасці. Як паказаць разам працы зусім розных плыняў, урэшце, розных узроўняў? І так, з увагі на сціпласць памяшканняў галерэі, трэба было абмежавацца толькі да некаторых відаў выяўленчага мастацтва: жывапісу, скульптуры і графікі. У рэцэнзіях з выставы паяўляюцца сцвярджэнні: няроўная, ёсць цікавыя творы, але і многа абы-якіх.

Усіх мастакоў, прысутных у галерэі „Захэнта", можна падзяліць на дзве групы: эмігранты і тыя, якія нарадзіліся ўжо за мяжою і ў чыіх жылах плыве польская кроў. Першыя, як правіла, прыехалі са Злучаных Штатаў Амерыкі, Францыі, Вялікабрытаніі ды іншых краін Захаду, другія, у большасці, з Савецкага Саюза. Сярод іх — пяць мастакоў з Беларусі. Усе яны бралі ўдзел у іншай варшаўскай выставе, „Бела-арт. Панарама беларускага мастацтва", у маі-чэрвені г.г.

Я разумею, што мастацтва гэта катэгорыя звышнацыянальная. Але ўсе ж такі, калі арганізуюцца выставы артыстаў аднае нацыянальнасці, нягледзячы на іхнюю творчасць, значыць, маюць нейкае значэнне і карані мастакоў. Выстава „Мы ёсць" мела выразную мэту — паказаць творы польскіх мастакоў, расцярушаных па свеце. Не было б нічога незвычайнага ў тым, што ў ёй удзельнічаюць польскія мастакі з Беларусі. Але ж ...

Летам мінулага года польскае тэлебачанне трансліравала перадачу пра польскіх мастакоў у Менску. Мастакі здымаліся ў нейкай майстэрні, лідэр групы граў на гітары і спяваў рускія рамансы. Усе гаварылі па-руску, але дэкларавалі польскае паходжанне (калі не маці і не бацька, дык хаця дзед або прадзед былі палякамі). Большасць з іх ужо раней была ў Польшчы, якая явілася краінай дастатку, раем для мастакоў. Некаторыя выказвалі жаданне пераехаць у Польшчу на пастаяннае жыхарства. Гэта гучала верагодна. Можа я інакш успрыняў бы і

( Працяг на стар. 8 )



## Свойскія малюнкі



*Беласток. Вул. Мазавецкая..*
Мал. У. Петрука.

***

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**20-01-1988 г.**

„Ніва" пачала друкаваць „Занатоўкі з Англіі".

„Polityka" ад 16-га: „ Mniejszości są wśród nas" Тамашэўскага. Даволі праграмнае выступленне, якое, можа, хоць крыху зменіць штосьці...

У Мінску — скандал з Дзядамі

1-га лістапада! У апошнім „ЛіМ"е: „Якіх часоў логіка" — вельмі вострая абарона праўды пра трагедыю Беларусі.

Свята Дзядоў і рэакцыя на гэтую беларускую акцыю рускамоўнай публіцыстыкі выявіла падзел на беларусаў і **тоже-белоруссов**. Найбольш абурэння на тэзу культурнага генацыду беларускага народа. Нечаканa хутка высунута яе ва **вcеслушание**. Барацьба за ўтрыманне ў жывых беларускай нацыі разгортваецца з нечуванай вастрынёй і нават беспардоннасцю. Якія патэнцыі за ёю стаяць?

Дзіка бачыць абарону беларускага ў савецкай газеце. Чагосьці такога не было ад пакаленняў! Канец эпохі тэрору?

**30-01-1988 г.**

„Białowieża, Białowieża" — незвычайна вялізны ў нашай Задрыпоніі тэкст пра „Белавежу" („Gazeta W." за 22-га). Гадавінны. Яновіча зашмат у ім; варагоў пабольшае ў мяне. А яшчэ і сённяшні „Kurier P." падхваліў... І ў „Trybunie Ludu", г. польскай „Праўдзе", інтэрв'ю будзе, бо Халецкай я так спадабаўся... Koniec swiata!

Ага, і ў капіталістычнай „The International Authors and Writers Who is Who"(Cambridge).

Беластоцкі „Dom Książki" і, асобна, ГП БГКТ выступілі ў кабінет Ваяводы з прапановаю ўзнагародзіць мяне. Хто іх прасіў? Нашто мне гэта на старасць! Я ж нават у друку пішу, што — не хачу! Дзевяты нумар „Poezji" — „Ankieta poetycka" — чыталі, раструбілі пра яе, „Ніва" кавалак передрукуе... Не абразіліся, не паслалі да дыябла, будуць піхаць узнагароду і медаль! Вазьму, а іншыя рагатацьмуць: усё гэта мы атрымалі ўжо так даўно, што і забыліся! Паніжаючае.

Быў на пленуме ГП БГКТ. Мала з'ехалася, усяго трэцяя частка. Дэгенерацыя! Некаторыя хацелі(Галёнка), каб я заняў сакратарскае месца пасля Лубы. Утопія — гэта раз (Баркі ўладарыць!). А па-другое, а калі б нават, дык нашто мне гэта ў мае 52 гады і пры магчымасцях у літаратуры?!

У Польшчы зноў вэрхал: новыя цэны!

Нервы паганяюць нервы.

І Таня хворая-хваруткая, 26-га далі ёй пажыццёвую рэнту (на ўзроўні мінімальнай платы). І сыноў чорт па свеце носіць. І сам я ледзь трымаюся. І матцы ўжо пад восемдзесят, трэба памятаць аб тым, бо калі яе не будзе, дык у Крынкі мус перабірацца...

**02-02-1988 г.**

Панура важны тэкст: Józef Mirski, „Problemy językowe w kościołach rzymsko-katolickich na Białorusi i na Ukrainie po drugiej wojnie światowej", „Zeszyty Historyczne" н-р 79 (напісанае ў Варш. пад восень 1986 г. і апубл. ў эміграцыі). Бачу, Туронак пастараўся, адшукаў.

Высновы трагічныя: касцёл можа быць выключна польскі! Не можа быць нават і думкі пра яго беларусізацыю ды ўкраінізацыю, бо вядзе гэта... да пагібелі каталіцтва там. Савецкія ўлады талеруюць стэрэатып католік-паляк, „польская вера", што дае шанц утрымаць грамадскую малазначнасць касцёлаў як свайго роду асяродкаў толькі польскай меншасці, без экспансіі па-за польска-нацыянальныя рамкі. Такія адносіны адпавядаюць палякам, на думку якіх беларуская і украінская мовы ў касцёле размылі б ягоную папулярную асобнасць ад праваслаўя... Яшчэ іначай: экспансія каталіцтва за межы польскай стыхіі там магла б скончыцца канчатковай асіміляцыяй тамашніх палякаў, якія без польскасці касцёлаў зніклі б назаўсёды. Мірскі робіць яшчэ заўвагу: працэс русіфікацыі дадаткова паказвае — або польскі, або... смерць! — Дасталася і нябожчыку Сіповічу.

Вось і ўся „перспектыва" беларускім католікам. Словам: nie ma o czym mówić!

*(Працяг будзе)*

Тлумачэнні:

*— скандал з Дзядамі — ганебная акцыя савецкіх унутраных войскаў супроць беларускай патрыятычнай дэманстрацыі ў Менску;*

*— „Gazeta W." — „Gazeta Wspolczesna";*

*— „Kurier P." — „Kurier Podlaski";*

*— Халецкай — Людміла Халецкая— Палоцкая , беластоцкая журналістка.*

*— Таня — Таццяна Яновіч, жонка Сакрата.*

*— Туронак — Юры Туронак, беларускі гісторык з Варшавы.*

*— Задрыпоніі — Задрыпонія: іранічная назва беларускай правінцыйнасці, заглухласці, вынайдзеная Юрым Ваўкавыцкім (ад формаў: задрыпанасць, задрыпанец, задрыпанка, задрыпанства, г.зн. цемната і апушчанасць).*

*— Сіповічу — Часлаў Сіповіч, Апостальскі візітатар для беларусаў на чужыне. Памёр у Лондане, у 1981 г.*

# СПРЫЯЦЬ ГАСПАДАРЧАЙ ІНІЦЫЯТЫВЕ

11 жніўня 1991 года адбылася сесія Галоўнай рады Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. На гэтай сесіі была прадстаўлена ідэя стварэння пры Беларускім дэмакратычным аб'яднанні Гаспадарчага гурту. Арганізацыю Гаспадарчага гурту Галоўная рада БДА даручыла Валянціну Сельвесюку — сябру Галоўнай рады і Міраславу Целушэцкаму — кіраўніку суполкі „Амега".

— Гаспадарчы гурт, — сказаў мне Міраслаў Целушэцкі, — не з'яўляецца фірмай Галоўнай рады БДА. Ягоная роля ў тым, каб наладжваць і каардынаваць эканамічныя сувязі з Беларуссю ды іншымі рэспублікамі. Вольны рынак — гэта магчымасць ствараць прыватныя фірмы і прадпрыемствы, але праўда тут і такая, што шмат якім суполкам неабходная падтрымка, без якой ім не ўтрымацца на рынку. Якраз у гэтым бачу галоўную ролю Гаспадарчага гурту пры Беларускім дэмакратычным аб'яднанні — спрыяць прыватнаму бізнесу. З гэтай думкай арганізуем сімпозіум у Менску на эканамічныя пытанні. У сімпозіуме ўзялі б з аднаго боку ўдзел Гаспадарчы гурт і прадстаўніцтва Ваяводскай управы ў Беластоку, а з другога — урадавае прадстаўніцтва Беларусі. Беларускі бок запрапанаваў, каб першая такая сустрэча адбылася ў студзені 1992 года.

— Беларускі бок, — паясніў мне Валянцін Сельвясюк, — усё яшчэ мае нейкія сумлевы, што датычыцца наладжвання кантактаў з Беларускім дэмакратычным аб'яднаннем, дык у арганізацыю сімпозіума ангажуем

( Працяг на стар. 8 )

# НАШЫ КАНДЫДАТЫ

**ЯН ЧЫКВІН — нарадзіўся ў 1940 г. у Дубічах Царкоўных. Закончыў у 1959 г. беларускі ліцэй у Бельску, а ў 1964 — філалагічны факультэт Варшаўскага уні-версітэта. Працуе дацэнтам Варшаўскага універсітэта. Беларускі паэт, аўтар 6 паэтычных кніжак. Старшыня Беларускага літа-ратурнага аб'яднання „Белавежа", кансультант і рэдактар літа-ратурнай старонкі ў „Ніве".**



## ПРА НАШЫ ПЕРСПЕКТЫВЫ

**„Ніва"**: *Вы — кандыдат Беларускага выбарчага камітэта ў Сенат. Як абгрунтоўваеце памкненне беларускай грамадскасці на Беласточчыне мець свае нацыянальнае прадстаўніцтва ў парламенце Польскай Рэчыпаспалітай?*

**Ян Чыквін**: -Я думаю, што зараз ужо ўсе беларусы на Беласточчыне зразумелі лозунг, кінуты два гады назад, што „пра свае справы мы павінны гаварыць самі" і вырашэнне сваіх спраў мы павінны браць у свае рукі. А праблем у нашым асяроддзі ўсё большае, і яны абвастраюцца. Тут і надзвычай цяжкая эканамічная сітуацыя, і праблема захавання ды далейшага развіцця беларускай культуры. Вядома, што нашы палітычныя сапернікі ў выбарах — ці то сацыял-дэмакраты, ці Выбарчы камітэт праваслаўных — маюць іншыя прыярытэты, і беларуская справа для іх, практычна, не з'яўляецца істотнай праблемай.

*— Што ў сферы эканомікі Вы прапануеце сваім выбаршчыкам?*

— Магчымасць эканамічнага адраджэння беларусаў у Польшчы існуе. На дапамогу дзяржавы сёння спадзявацца нельга: дзяржава не ў змозе дапамагчы сёння і ў найбліжэйшай будучыні ні беларускаму, ні польскаму гаспадару. Таму трэба змагацца за змену ментальнасці нашага народу, за вяртанне да рынкавай эканомікі ў сельскай гаспадарцы. Наша вёска павінна быць заможнай, інакш мы не ўцалеем тут як народ. Я буду выступаць за тое, каб у рамках прыватызацыі можна было „папоўніць" сельскія гаспадаркі да мінімальнага абшару 10 гектараў зямлёю з Дзяржаўнага фонду альбо з парцэляцыі ПГР-аўскіх грунтаў. Тыя, што захочуць узяць гэтую зямлю і гаспадарыць на ёй, павінны быць, як і рамеснікі, звольнены ад падаткаў на некалькі гадоў, павінны таксама мець доступ да нізкапрацэнтных крэдытаў з замежных фондаў развіцця сельскай гаспадаркі. Я бачу таксама патрэбу развіцця сельскагаспадарчых кааператываў, якія абапіралі б сваю дзейнасць на заходнееўрапейскія ўзоры. Кааператыўная дзейнасць павінна засяродзіцца на скупцы і перапрацоўцы сельскагаспадарчай сыравіны, і таксама на гандлі, у тым ліку і за нашу ўсходнюю мяжу. Ажыўленне нашага рэгіянальнага рынку — гэта адначасна ажыўленне нашых мястэчак і вёсак, разбудова гаспадарчай і цывілізацыйнай інфраструктуры ў іх.

*— А Ваш погляд на перспектывы развіцця беларускай культуры?*

— На аснове новай эканамічнай сістэмы трэба будаваць і новую культурную палітыку. Сёння перспектыву для беларускай культуры на Беласточчыне можа вырашыць адно шырокі і адважны гурт творчай нацыянальнай інтэлігенцыі. Ёй перад усім трэба гарантаваць шанцы развіцця, шанцы рэалізацыі ў роднай культуры. Праграма гэтага развіцця павінна ўлічваць праблему комплексна: пачынаючы ад выхавання ў школах і канчаючы такімі „элітарнымі" формамі самавыяўлення, як прафесійны літаратурны і выдавецкі рух, прафесійны тэатр і г.д.

Уся наша бяда з беларускай культурай у тым, што гурт свядомай беларускай інтэлігенцыі — вельмі малы. Справа для мяне неаспрэчная: культуру „цягнуць і падцягваюць" прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі — ад іхняй кандыцыі залежыць культурная кандыцыя народу. Інакш кажучы, у нашай культурнай дзейнасці акцэнт трэба перанесці з даволі аказіянальных народна-фальклорных праяваў беларускай прысутнасці на Беласточчыне на мэтанакіраванае выхаванне творчай інтэлігенцыі. Яшчэ інакш: перспектыву нам вырашыць не беларускі музей, а маладое і свядомае пакаленне беларусаў, найболей адораная частка якога будзе мець варункі творчай самарэалізацыі ў сваёй нацыянальнай культуры.

**ПЁТР БАГРОЎСКІ — нара-дзіўся ў 1959 годзе ў Рутцы (гміна Дубічы-Царкоўныя). Закончыў Сельскагаспадарчую акадэмію ў Варшаве. Жыве ў сваёй роднай вёсцы, дзе разам з жонкаю працуе на гаспадарцы і займаецца абсталяваннем керамічнага прадпрыемства.**



## ДУМАЮ, ШТО ШАНЦЫ ЁСЦЬ...

**„Ніва"**: *— Пытанне да Вас асноўнае: якія перспектывы мае перад сабою малады чалавек, як Вы, які жыве і працуе на беластоцкай вёсцы, і хоча сам выжыць ды яшчэ пракарміць сваю сям'ю?*

**Пётр Багроўскі**: — Я думаю, што не мусіць быць так кепска, як усе прарочаць. Трэба толькі зразумець тыя гаспадарчыя механізмы, якія былі запушчаны ў апошнім часе і ўжо існуюць. Павароту да старога напэўна не будзе. Праграма Беларускага выбарчага камітэта якраз абапіраецца на разуменні гэтай новай гаспадарчай сітуацыі і даволі добра вызначае, што трэба рабіць, каб не згінуць. Калі нам ўдасца пераканаць людзей да гэтай праграмы і здабыць іхнюю падтрымку, то шанцы для нас ёсць... І будзе перспектыва, калі ўдасца нам ажыццявіць хаця б асноўныя пункты гэтай праграмы.

*— Што канкрэтна маеце на ўвазе?*

Напрыклад, справа прыгранічнага абмену. Калі гаспадар не можа прадаць карову на Беласточчыне, то чаму б яму не „запакаваць яе ў цэлафан" і не завезці на продаж у Гародню або ў Ваўкавыск? Пакуль што гэта нам бачыцца немагчымым. Але так будзе, калі маем жыць па-новаму. Я ў гэтым упэўнены. Але трэба нам таксама разумець, што асноўным рынкам збыту для нас будзе наш унутраны рынак. Трэба нам зразумець, што заўсёды будуць большыя цяжкасці са збытам збожжа, чымсьці мукі з яго, заўсёды будзе цяжэй прадаць жывую карову, чымсьці мяса з яе. Галоўнае для нас перапрацоўчая інфраструктура на Беласточчыне. Каб збываць тавар ужо ў якойсьці ступені пера-працаваны, а не „прымітыўную" сыравіну. Я быў нядаўна на Шлёнску — і дзіўная справа: там адчуваецца недахоп прадуктаў харчавання на рынку. Прадуцэнты, скажам, каўбасы ездзяць па цэлай краіне і скупляюць мяса, бо на месцы яго няма. Але менавіта — скупляюць мяса, а не жывых парсюкоў ці ялавічок. У тым то й справа — прадукт ужо крыху апрацаваны.

( Працяг на стар.8 )

**ПЁТР КРУК — нарадзіўся ў 1937 годзе ў Навасадах каля Гайнаўкі. Закончыў аўтамашынны тэхнікум у Беластоку. Працаваў шафёрам і механікам (у тым ліку — шафёрам гарадской камунікацыі ў Беластоку і таксістам), зараз працуе кіраўніком аўтарамонтнай майстэрні.**



## ЗВЯРТАЦЬ УВАГУ НА ЧАЛАВЕКА

**„Ніва"**: *— Калі ўвогуле будзем мець сваіх прадстаўнікоў у парламенце, то няшмат: аднаго, двух... Якую ролю для беларускага пасла бачылі б Вы?*

**Пётр Крук**: — Гэта вельмі важная роля, бо ён, наш прадстаўнік, знаходзіўся б непасрэдна ў цэнтры вырашэння дзяржаўных спраў. Ён мог бы гаварыць пра нашы праблемы на форуме, які дагэтуль застаецца нам недаступны, ён мог бы здабываць прыхільнікаў сярод тых, у чыіх руках знаходзяцца канкрэтныя зака-надаўчыя вырашэнні... Іншага канструктыўнага шляху для пасла з нацыянальнай меншасці — няма. Гэта доўгая і цяжкая дарога — здабываць сярод палякаў зразуменне і сімпатыю да нас, беларусаў, да нашых праблем...

*— Што нам перашкаджае здабыць гэткае зразуменне і сімпатыю?*

— Гістарычнае дасведчанне, асабліва з пасляваеннай нашай гісторыі, якое цягнецца за беларусамі як нейкі хвост... Нас абвінавачваюць у моцных камуністычных схільнасцях, у спрыянні камуністам, што не ёсць праўдай у адносінах да ўсёй нашай грамадскасці. Былі і такія, што не верылі ў гэтую сістэму, хоць, можа, не пратэставалі супраць яе так, як палякі. Але тут ужо дзейнічае тыповы для ўсіх меншасцяў механізм — нацыянальная меншасць у таталітарнай сістэме зашмат пратэставаць не можа...

*— А што патрэбнае беларусам, каб не зікнуць і эканамічна, і нацыянальна?*

— Скажу агульна: трэба нам той кавалак зямлі, на якім жывем, узняць на вышэйшы цывілізацыйны ўзровень. Мы зараз у цяжкім становішчы: палітыка ў адносінах да сельскай гаспадаркі перш за ўсё пачне элімінаваць з гаспадарчага краявіду наш рэгіён. Як кажуць, пакуль багаты збядняе, то бядняк ужо згіне — гэта пагражае Беласточчыне. Таму ў першую чаргу нашай дзяржаве патрэбная мудрая сельскагаспадарчая палітыка. Новы Сейм павінен гэтай палітыцы прысвяціць выключную

( Працяг на стар. 8 )

# НАЙЛЕПШ БАВІЛІСЯ АРТЫСТЫ

( Працяг са стар. 1 )

працаўнікі культуры. А ўжо другому канцэрту ў суботу, які адбыўся а 20-ай гадзіне, не памагла нават вядомая спявачка з Варшавы Яланта Яшкоўская — у зале былі заняты лічаныя месцы.

Каштоўная аправа:

У журы ад Польшчы — паэтка Агнешка Асецкая (старшыня журы), спявачка Аліцыя Маеўская, віцэ-міністр культуры Міхал Ягелла, кампазітар Уладзімір Корч, супрацоўнік Беластоцкага радыёвяшчання



*Перамагла Агнешка Янас з Дамбровы Гурнічай.*

— кампазітар Януш Папай, віцэ-прэзас ЗАКРа — кампазітар Кшыштоф Садоўскі, а таксама — Ігар Лучанок, старшыня Саюза кампазітараў Беларусі, Людвіг Шалт'яніс — прадстаўнік Міністэрства культуры Літвы, Уладзімір Ахранкоў — галоўны эксперт да спраў музыкі ў Міністэрстве культуры Расіі, Іван Карабітц —кампазітар, генеральны сакратар Саюза кампазітараў Украіны.



*Рэжысёр Адам Ганушкевіч сярод удзельніц фестывалю.*

Рэжысёр: Адам Ганушкевіч (дадаваць нічога не трэба).

Музычны кіраўнік: Станіслаў Фіялкоўскі (таксама знатны).

Акампанемент: Інструментальны ансамбль „BIG WARSAW BAND" пад кіраўніцтвам Станіслава Фіялкоўскага.

Пра маючы адбыцца фестываль было не вельмі гучна, але ў зале было гучна аж занадта: даваў знаць аб сабе вядомы варшаўскі „бігбэнд", часамі цалкам заглушаючы галасы маладых спевакоў. Некаторым, праўду кажучы, гэта выйшла нават на карысць.

Хаця арганізатары запэўнівалі, што фестываль „Беластоцкія мальвы" — гэта зусім штосьці новае, дык змест яго і так складалі савецкія песні, толькі выбраныя на гэты раз варшаўскімі спонсарамі. Менш было песень патрыятычных, а больш было ў рытме танга ці нейкіх сучасных рытмаў. Некаторыя слухачы адчувалі недасыт балад і лірыкі. Модныя рытмы, напэўна, цешылі б моладзь, але яе ж сярод слухачоў не было занадта відаць.

Беларускай песні было як на лякарства. Ігар Лучанок, вядучы беларускі



*Спявае член журы Аліцыя Маеўская.*



*Агнешка Каранецкая з Беластока запрошана ў Мінск.*

кампазітар, налічыў усяго тры свае песні, ды і то адна з іх была напісана на словы Я. Еўтушэнкі. Валодзя Кудрын, які выступіў на ўрачыстым канцэрце ад імя Беларусі, цалкам надвёў аматараў беларускай песні. Баладу, праўда, яшчэ неяк засяваў па-беларуску, падыгрываючы сабе на гітары, а пасля, відаць, вырашыў, што няхай ведаюць нашых! — і... заспяваў нешта па-англійску ў суправаджэнні „BIG WARSAW BAND", чым нямала скапфузіў публіку, якая прыйшла сюды зусім на што іншае. Рэдзенькія апладысменты праводзілі яго са сцэны.

Мовы беларускай у конкурсе зусім не было чуваць, а руская і ўкраінская паяўляліся зрэдзьчасу. Амаль усе песні спяваліся па-польску і ў суме не надта было вядома, на якім мы знаходзімся фестывалі. Ясна было толькі адно: мы на фестывалі маладых аматараў з даволі добрай музычнай падрыхтоўкай.

Вельмі выразна ў фестывалі зазначылася рука вопытнага рэжысёра. Усе выканаўцы сядзелі ў першым радзе залы і выскаквалі, калі прыходзіла іх чарга, на сцэну. Тыя, што засталіся сядзець, не сядзелі злажыўшы рукі: падымалі іх уверх, махалі то налева, то направа, прылясквалі. Часамі дзяўчаткі выскаквалі на сцэну і стваралі фон для спяваючай асобы — падспеўвалі, захапляліся, выказвалі

****************************************

# ЯШЧЭ АБ АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ

У 1974 г. у часопісе „Przegląd Historyczny" з'явіўся мой нарыс аб Антону Луцкевічу, а раней, у 1972 г. — яго біяграма. Для некаторых было гэта нечаканасцю. У пяцідзесятых гадах пра Луцкевіча я ведала вельмі мала, чытала толькі, што ён „найвялікшы вораг КПЗБ і Грамады".

Луцкевіч мяне цікавіў здаўна, але ў той час я сама не ўзялася б за гэту тэму. Яшчэ ў 1962 г. я натрапіла напісаць аб Луцкевічу, што разам з Р. Астроўскім яны „адыгралі ганебную ролю пасля дэлегалізацыі Грамады, ствараючы адкрыты блок з санацыяй". Але ў 1970 або 1971 г. рэдакцыя „Польскага біяграфічнага слоўніка" заказала ў мяне біяграмы трох чалавек, у тым ліку і А. Луцкевіча. Зрабіла гэта на мяне вялікае ўражанне і нельга было адмовіцца. Я згадзілася апрацаваць біяграму Луцкевіча і неўзабаве сабрала намнога больш матэрыялаў, чым гэта было патрэбна для слоўніка.

Пазнаёмілася я з многімі працамі Луцкевіча і мае адносіны да яго значна змяніліся. Асабліва важнымі былі яго працы, якія друкаваліся ў „Нашай ніве" і яе календарах, працы, публікаваныя ў „Беларускім музеі" ў трыццатых гадах, і яго ўдзел у Беларускім навуковым таварыстве ад пачатку яго існавання (1918—1939). Штораз часцей у постаці Луцкевіча заўважала я чалавека, які ў значнай меры ствараў гісторыю культуры народу, і на гэтым галоўным чынам налягала яго роля ў гісторыі. Але як аб гэтым пісаць?

Тагачасная цэнзура „не любіла" ўсяго, што не падабалася Савецкаму Саюзу. А ў БССР Луцкевіча да такой ступені лічылі ворагам, што нават яго прозвішча нельга было ўжываць у газетах і кніжках. У 1956 г., калі большасць беларускіх дзеячоў, арыштаваных у СССР у 1930—1953 гадах былі рэабілітаваны — Луцкевіча не было сярод іх.

Адзіны часопіс, які ў сямідзесятых гадах прымаў мае працы на беларускія тэмы, гэта быў „Przegląd Historyczny". Былі і іншыя цяжкасці. Не было ў Польшчы многіх беларускіх газет, якія Луцкевіч выдаў пасля „Нашай нівы" (ад 1915 г. да 1922 г.). Я слаба ведала той перыяд яго жыцця, які выпаў на 1917—1922 гады.

Дарэчы, дапамагала мне яго сям'я, якую да гэтай пары я не ведала. У суме, аднак, біяграфічны нарыс Луцкевіча з'явіўся і ахапіў у прынцыпе ўсё жыццё. З Нью-Йорка атрымала я зусім някепскую рэцэнзію. Даходзілі да мяне чуткі, што на Беларусі гэты нарыс лічылі як рэабілітацыю Луцкевіча.

Калі цяпер я зноў узяла гэты нарыс у рукі, дык зразумела, што не ўсё ў ім прадстаўлена як трэба. Замнога ўвагі прысвяціла я пытанню „КПЗБ і Луцкевіч". Ці ў такой сітуацыі намераюся пісаць нанава ўсю яго біяграфію? Не, няхай гэтым займаецца маладое пакаленне. Хачу тут дабавіць некалькі дэталяў з яго жыцця, якія пазнала я пазней, а яны вельмі істотныя пры вывучэнні гэтай постаці.

Перш за ўсё датычыцца гэта выказванняў Луцкевіча на працэсе Грамады ў 1928 г. у Вільні: „Ні арганізацыйна, ні ідэалагічна я з грамадаўскім рухам не меў нічога супольнага". У свой час я абвінавацiла Луцкевіча ў тым, што ён не мог зразумець таго, што для беларускага народу абазначала знішчэнне Грамады". І, хаця ў яго выказванні ўсё згаджалася, я ўжо тады ведала, што ён паводзіў сябе менавіта так толькі таму, што хацеў за любую цану выйсці з турмы. А як сёння ацэньваю яго сапраўдныя адносіны да Грамады?

Апошнім часам чытала я (дагэтуль невядомае) інтэрв'ю з Луцкевічам на тэму Грамады, зробленае журналістам віленскай газеты „Цайт" ад 25 студзеня 1927 года, у два тыдні пасля арышту яе дэпутатаў у Сейм. Вось што напісаў гэты журналіст аб Луцкевічу: „Вядомы беларускі дзеяч і былы прэм'ер-міністр першага беларускага ўрада Антон Луцкевіч, між іншым, сказаў: апошнім часам даецца заўважыць вялікае эканамічнае і палітычнае ажыўленне сярод беларусаў. Сярод палітычных арганізацый на першым месцы стаіць „Грамада", якая налічвае 90 000 членаў і 1800 гурткоў. У Сейме гэты напрамак прадстаўляюць паслы: Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Валошын, Мятла і Сабалеўскі. Меншую ролю адыгрывае „Сялянскі саюз" і „Хрысціянская дэмакратыя". Далей чытаем: „Гаворачы аб закідах, што Грамада працавала за чужыя грошы, Луцкевіч

дэзапрабату. Кожны іх жэст меў нешта абазначаць: то яны падалі да ног спяваючага, удаючы закаханых, то былі дзяўчатамі з гарэму — руху было шмат.

Відаць было, што рэжысёру Адаму Ганушкевічу хацелася стварыць на сцэне і ў зале атмасферу супольнай радаснай забавы. І сапраўды, дзяўчаткі цешыліся, ды толькі, здаецца, не надта ведалі, з чаго, папатыкаючы на ледаватую залу.

Беластачане ў фестывалі выпалі бледна. Толькі дуэт: Кацярына Крысевіч і Віялета Шымосюк атрымаў вылучэнне, а Агнешка Карапецкая была запрошана ў ліку трох выбраных салістак у Мінск на фестываль беларускай песні. Эва Сядлецкая, з якой можна было звязваць нейкую надзею, не атрымала ніякай узнагароды (спявала з хворым горлам), а Ала Дубец з яе вышкаленым, мілагучным голасам, якая па-даўнейшаму рэпрэзентавала Беласток, хаця часова жыве ў Саноку, і была, паводле нашых прагнозаў, амаль пэўнай лаўрэаткай фестывалю, на занальным аглядзе ў Пшчыне, які адбываўся пасля ваяводскіх эліміпацый, была з незразумелых прычын выэлімінавана з конкурснай часткі. Была затое перасунута ў пазаконкурсную частку і мела выступіць як госць фестывалю, без месца і ўзнагарод, прыехаўшы з Санока на свой уласны кошт, але — у кампаніі слаўных ужо артыстаў-спевакоў. У выніку — зусім не ўзяла ўдзелу ў фестывалі, чым вельмі засмуціла наклоннікаў яе таленту. Няяснымі застаюцца інтэнцыі арганізатараў: ці аказалася Ала настолькі добрай спявачкай, што палічылі яе прафесіяналісткай і паставілі ў адзін рад з заслужанымі артыстамі і пераможцамі фестываляў у Зялёнай Гуры ды Віцебску, ці мо яе песні і спосаб інтэрпрэтацыі іх былі настолькі іншыя (хаця, на нашу думку, аўтэнтычныя), што маглі б сапсаваць цэлую задуманую кампазіцыю фестывалю?..

У памяці маёй засталіся беластоцкія конкурсы беларускай песні, калі ў Філармоніі людзі не толькі сядзелі, але і стаялі, бо было гэта для іх сапраўднае свята, свята іх песні, такой, якая ім па душы і якую хочуць спяваць і слухаць. Беластачане на гэтым фестывалі сатысфакцыі не атрымалі.

Уяўляю сабе, з якой зайздрасцю дзеячы Беларускага таварыства, адказныя за культуру, глядзелі на сілы, згуртаваныя


*Гасцінна выступіў абаяльны дуэт „Ас" з Украіны.*

вакол Фестывалю беларускай, літоўскай, расійскай і ўкраінскай песні. Яны ж свае фестывалі і конкурсы робяць надзвычай скромнымі сродкамі, найбольш лічачы на мясцовы патрыятызм. Сродкі ж, прызнаныя на „Беластоцкія мальвы '91", у пяць разоў перавышаюць сродкі, якія сёлета атрымала Беларускае таварыства на ўсе імпрэзы, разам узятыя.

І таму маюць яны ціхую надзею, што ў новых умовах, калі Рэспубліка Беларусь будзе вымушана вылажыць велізарныя сумы на Фестываль польскай песні ў Віцебску, польскае Міністэрства культуры і мастацтва ласкавым вокам гляне і на Фестываль беларускай песні ў Беластоку і кіне на яго патрэбы нейкі грош.

Фрэквенцыя ў якой бы то не было зале — гарантаваная! І не будзе так, як на гэтым фестывалі — што найлепш бавіліся артысты.

**АДА ЧАЧУГА**
**Фота СЯРГЕЯ ГРЫНЯВІЦКАГА**



*Ансамбль „BIG WARSAW BAND" пад кіраўніцтвам Станіслава Фіялкоўскага.*

P.S. Першае месца (Белая мальва) прызнана Агнешцы Янас з Дамбровы Гурнічай;

другое месца (Жоўтая мальва) — арыгінальнаму дуэту „La Bomba" з Дома культуры ў Паддэмбіцах;


*Вылучаная ў конкурсе Мажэна Веселінская вучыцца ў Варшаве на акторку і спявачку.*

трэцяе месца (Блакітная мальва, хаця такіх не бывае) — Івоне Янчак са Старгарда Шчэцінскага.

Пераходную Чорную мальву пакінулі ў Беластоку. Каб хаця не на жалобу.

**А.Ч.**

*************************************************************************************

сцвярджае, што ў Грамады так многа членаў, што не патрабуе яна ніякіх чужых". На пытанне журналіста, „як успрымае ён апошнія арышты", Луцкевіч сказаў, „што падставы для арышту паслоў вельмі слабыя. Арыштаванні беларускіх дзеячоў з'яўляюцца **пачаткам прыгнёту беларускага нацыянальнага руху** (падкрэсленне аўтара). Адносіны беларускіх арганізацый да гэтых арыштаў адмоўныя і кожны дзень праводзяцца пратэстацыйныя сходы і ён сам у гэтай справе звяртаўся ў пракуратуру...". Гэтая заява выразна розніцца ад таго, што Луцкевіч гаварыў на працэсе. Гэтае інтэрв'ю яўрэйскага журналіста прыпомніў мне вельмі істотную дэталь, звязаную з 1927 годам. Ужо раней прыйшла я да вываду, што менавіта беларускімі справамі ў 1927 годзе (пасля арышту правадыроў Грамады і КПЗБ) кіравалі дзве асобы: Луцкевіч і Дварчанін (прыпомню, што Луцкевіча арыштавалі на 10 месяцаў пазней за кіраўнікоў Грамады). Быў гэта перыяд выбараў у гміны і грамадаўцы дасягнулі ў іх значныя ўплывы. Тое, што Луцкевіч прымаў актыўны ўдзел у выбарах у 1927 г., вынікае з судовых актаў з працэсу Грамады. Выяўляецца, што ў выступленні на працэсе Грамады не была сказана ўся праўда, тым больш, што Луцкевіч не пакінуў працаваць у газетах Грамады.

Аднекуль вядома, што Луцкевіч не хацеў уступаць у Грамаду і ад 1925 г. сварыўся з правадырамі Грамады. Усё паказвае на тое, што ён супрацьстаўляўся падзелу сеймавага клуба. У 1922 г. быў ён кіраўніком Беларускага цэнтральнага выбарчага камітэта, арганізацыі гэтага клуба прысвяціў ён многа часу і адыграў у ім галоўную ролю. Здаваў ён сабе справу з важнасці гэтай першай у гісторыі беларусаў прысутнасці ў польскім парламенце — і таму падзел клуба лічыў вялікай памылкай. Аднак ксёндз Адам Станкевіч, з якім Луцкевіч блізка супрацоўнічаў таксама ў трыццатых гадах, а фактычна аж да яго смерці, гаварыў адкрыта, што падзел клуба быў некарысны для інтарэсаў беларускіх сялян. Як выявілася пазней, зацікаўлена ў гэтым была сеймавая камуністычная фракцыя. Сапраўды ў арганізаванні Грамады як масавага руху прымалі ўдзел усе члены Беларускага клуба, нават тыя, хто не хацеў супрацоўнічаць з Камуністычнай фракцыяй. Нездарма былыя грамадаўцы, з якімі я гутарыла ў сямідзесятых гадах, гаварылі: камуністы прыйшлі ў Грамаду на „гатовенькае".

На III канферэнцыі КПЗБ кіраўніцтва загадала свайму актыву ўдзельнічаць у рабоце Грамады. Тая канферэнцыя адбылася ў студзені 1926 г. і камуністы ўключыліся ў гэты рух у палове года. А Грамада ўзнікла ў чэрвені 1925 г.

Луцкевіч сварыўся з грамадаўцамі (а асабліва з Тарашкевічам) яшчэ з тае прычыны, што лепш за ўсіх дзеячоў ведаў, на якую палітыку можа спадзявацца Беларусь з боку Масквы. Быў ён асабіста знаёмы з некаторымі віднымі дзеячамі БССР, якія лічылі яго „шэрай эмінэнцыяй" і вельмі высока цанілі яго. Прыслалі яны да яго спецыяльных пасланнікаў. Нельга выключыць, што яго адмаўленне ад кандыдавання ў Сейм было вынікам размоваў з сябрамі з БССР. Ужо ў 1926 годзе Луцкевіч ведаў, што беларускую інтэлігенцыю чакаюць два віды абвінавачванняў. Па-першае, тое, што неўзабаве прыдуць рэпрэсіі за „нацыяналізм", а адначасна з прычыны ўзмацнення дыктатуры і цэнтралізму пачнецца змаганне з дэмакратыяй. І таму менавіта ў адносінах да беларускіх інтэлігентаў з'явіліся закіды „нацыянал-дэмакратызму". Намнога раней, чым іншыя, ведаў Луцкевіч аб пачатках калектывізацыі.

Узнікае пытанне: ці правадыры Грамады ў 1926 годзе не ведалі аб пераменах на Беларусі? Здаецца, што гэта немагчыма. Але хіба даведаліся крыху пазней ад Луцкевіча. А самае важнае, што ўдзельнічалі яны ў надзвычайным руху, прыцягнулі іх масы.

Больш, Тарашкевіч лічыў, што „палякі са сваёй культурай і традыцыяй хутка асімілююць беларусаў, а з Масквой яны (беларусы) самі парадзяць". Моцна ён мыліўся.

Варта тут сказаць аб лісце, які апошнім часам атрымала я ад старэйшага сына Луцкевіча — Юрыя. Піша ён, між іншым, пра размову бацькі з Тарашкевічам — не ведаю, у якім годзе, але 50 год таму бачыў ён след гэтай размовы ў адной з папак бацькі. Паводле Юрыя, Тарашкевіч меркаваў, што неўзабаве ўспыхне ў свеце рэвалюцыйнае паўстанне, і што варта да яго далучыцца. На гэта, праўдападобна, Луцкевіч адказаў: „Рэвалюцыя ва ўсім свеце, калі нават і будзе, то не хутка. А калі вы прыедзеце да нас праз дзесяць гадоў, то мая заслуга ў нейкім сэнсе будзе ў тым, што прыедзеце ў Заходнюю Беларусь, а не ва Усходнюю Польшчу. А мяне можаце арыштаваць і расстраляць". Ліст гэты атрымала я 9 сакавіка 1990 года.

**( Працяг на стар. 8 )**

# НАШЫ КАНДЫДАТЫ

( Працяг са стар. 5 )

## ДУМАЮ, ШТО ШАНЦЫ ЁСЦЬ...

Вось адна з характэрных прыкмет новай гаспадарчай сітуацыі...

*— Вёска наша пусцее: штораз менш застаецца ў ёй маладых рабочых рук. Ці мае яна перад сабою будучыню?*

— Я б сказаў, што гэта натуральны працэс. Калі цяпер у вёсцы, скажам, трыццаць гаспадарак, то ў перспектыве застанецца дзве-тры. І тыя два-тры гаспадары будуць абрабляць усю тую зямлю. Пераход да гаспадарак фермерскага тыпу будзе адбывацца вось такім чынам, без ніякіх націскаў зверху. Яны, фермеры, будуць вымушаны абрабіць зямлю цэлай вёскі, бо інакш не змогуць выжыць...

*— Дык што цяперака будзе базай беларускасці на Беласточчыне, калі вёска вось такім чынам пераўтворыцца?*

— У тым наша галоўная нацыянальная праблема. Бо зямля наша не прападзе, не будзе ляжаць аблогай, не пакрые яе лес... Але наша свядомасць? Яе трэба будзе разбуджаць і мацаваць у гарадах. Да гэтага мы не вельмі падрыхтаваны. Выходныя дадзеныя — што беларус гэта не чалавек нейкага другога гатунку, што беларуская культура мае сваю сілу прыцягнення — у нас ёсць. Але ў нас няма добра распрацаванай інфармацыйнай палітыкі, прапаганды беларускасці. І няма новых, сучасных і гарадскіх, формаў самарэалізацыі ў беларускай культуры. Таму найчасцей выхадцы з вёсак апынаюцца ў горадзе з „нулявой" нацыянальнай свядомасцю. Так мне сказала нядаўна адна мая знаёмая — у мяне нулявая нацыянальная свядомасць... Яшчэ адзін нацыянальны тып у нашай беластоцкай рэчаіснасці. Мне здаецца, што „беларускі комплекс" — гэта не брак уласнай гісторыі ці культуры, але брак інфармацыі пра яе. Каб ліквідаваць гэты брак, трэба карыстацца любымі формамі. Сама „Ніва" яго не зліквідуе. Патрэбныя нам і выданні на польскай мове: маладое пакаленне, на жаль, пабеларуску чытаць не можа. Каб даць магчымасць маладым зысці з гэтага „нулявога ўзроўню", трэба ім пра Беларусь гаварыць па-польску. Магчыма, што гэта гучыць даволі трагічна, але такія ў нас справы. Я б гэта назваў ліквідацыяй бязграматнасці, ад яе трэба пачынаць. Зноў і зноў, як наогул бывала ў беларускай гісторыі... Але шанцы ў нас ёсць...

( Працяг са стар. 5 )

## ЗВЯРТАЦЬ УВАГУ НА ЧАЛАВЕКА

ўвагу. Наш рэгіён — гэта інтэгральная частка краіны. Калі ў краіне будуць вось такія гаспадарча слабыя мясціны, то гэта аўтаматычна абазначае, што і краіна ў цэлым — слабая.

*— Ці гэта значыць, што новы Сейм павінен вызначаны ў апошнім часе накірунак сельскагаспадарчай палітыкі павярнуць у іншы бок, а, можа, варта вярнуцца да старога?*

— Павароту да старога не будзе. Але ва ўсім гэтым цяперашнім палітыкаванні нельга губляць з вачэй чалавека, чыста людскага аспекту агульнадзяржаўнай палітыкі. Кожнае канкрэтнае вырашэнне сёння трэба перш за ўсё разглядаць у такім аспекце: наколькі ад гэтага вырашэння пацерпіць просты працоўны чалавек, наколькі цяжэй яму будзе жыць. Я працаваў у шмат якіх гарадах Польшчы, пакуль абасноваўся ў Беластоку. І бачыў, колькі ў Польшчы было зроблена толькі дзеля ідэі, а не дзеля чалавека. Сёння ўсё гэта непатрэбнае, прападае марна... І я баюся, каб сёння, калі мы засноўваем у грамадстве новыя ідэі, зноў за гэтымі ідэямі мы не згубілі чалавека.

## І ШТО ДАЛЕЙ?

Палітыка, палітыка і яшчэ раз палітыка. Дзе ні стань, дзе ні сядзь — усюды тая ж самая гутарка пра палітыку. Якая перспектыва ў нашага грамадства? Які рэцэпт прымяніць дзеля аздараўлення хворай гаспадаркі? Людзі на вёсцы страцілі ўсялякі аптымізм, давер і пашану да ўсіх дэцыдэнтаў — ад прэзідэнта да войта гміны ўключна. Многія яшчэ нядаўна крычалі, што Савецкі Саюз аб'ядае народную Польшчу, але калі рускія перасталі купляць польскія прадукты, тады зноў зрабілася бяда, гвалт. Зараз сельская гаспадарка ў Польшчы хварэе на звышпрадукцыю. За апошнія два гады паявіліся ў нашай краіне лішкі збожжа, а дзяржаўныя элеватары перасталі яго купляць у мясцовых земляробаў. Падобная сітуацыя і ў жывёлагадоўлі. Ямо мы заходняе мяса, а свайго прадаваць няма дзе. За малако таксама плоцяць сімвалічныя сумы.

Сельскагаспадарчая прадукцыя становіцца нерэнтабельнай. У такой сітуацыі вёска будзе далей старэць, бо маладым там няма ніякай перспектывы.

Неўзабаве парламенцкія выбары. На жаль, на вёсцы імі амаль ніхто не цікавіцца. Людзі страцілі давер да палітыкі і палітыкаў, перасталі верыць у іхнія абяцанні, становяцца абыякавымі. Што рабіць далей?.

**Валянцін Семянюк.**

---

## ЯШЧЭ АБ АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ

( Працяг са стар. 7 )

У гэтым лісце відаць не толькі розніца паміж поглядамі Тарашкевіча і Луцкевіча, але ўзнікае пытанне, чаму Луцкевіч не пакінуў Вільню, тым больш, што яго пераконвалі ў тым, а і сам ён ведаў, што чакае яго з боку СССР.

Ад некалькіх сем'яў віленскіх дзеячоў ведаю, што спачатку камандаванне Савецкай Арміі абяцала У. Самойлу, А. Уласу і іншым, што будуць мець магчымасць удзельнічаць у беларускай працы згодна з іх воляй. Не выключана, што пад уплывам гэтых абяцанак яны не ўцяклі з Вільні. Але здаецца, што была важнейшая прычына: факт злучэння Беларусі, аб чым так доўга марыў Луцкевіч.

І, нарэшце, справа смерці А. Луцкевіча, яе месца і час. Калі пісала я біяграфічны нарыс, яго радня з ЗША прыслала мне ліст (без подпісу), які бышцам пісала яго сястра Эмілія, якая ўжо ў гэты час не жыла. З гэтага ліста я даведалася, што А. Луцкевіч пасля арыштавання ў Вільні знаходзіўся ў турме ў Вілейцы. Трымалі там яго, як і многіх іншых, аж да вайны з Нямеччынай. Тады, у 1941 г., турэмшчыкаў гналі на ўсход, а па дарозе расстрэльвалі слабых. Сярод іх быў, бадай, А. Луцкевіч. На многа гадоў пазней даведалася я ад сем'яў, што такім чынам закончылася жыццё У. Самойлы, З. Рэйзена і іншых. Але сыны Луцкевіча, якія жылі ў Савецкім Саюзе (і ў іх былі дзеці), далі мне зусім іншую інфармацыю. Пакарысталася я ёй не толькі таму, што на ліст з ЗША ў той час было б цяжэй спасылацца. Я ведала, што многія (нават пісьменнікі) скрывалі факты рэпрэсіі, якія спасцігалі бацькоў. І гэтым я кіравалася.

Антон Луцкевіч быў рэабілітаваны Пракуратурай Літоўскай ССР 31 сакавіка 1989 г. З гэтага дакумента вынікае, што Антон Іванавіч Луцкевіч быў арыштаваны 30 верасня 1939 г. і тзв. Асобым савешчаннем пры НКУС СССР быў прыгавораны на 6 гадоў лагераў. Рэабілітавалі яго паводле Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 16 студзеня 1989 г. „Аб дадатковых прынцыпах вяртання справядлівасці ў адносінах да ахвяр рэпрэсіі ў 1930—1940 і з пачатку 50-х гадоў".

Як мне вядома, арыштаваных НКУС, а асабліва такіх, як Луцкевіч, прымушалі пісаць біяграфіі. У былым Цэнтральным архіве ЦК ПАРП такія дакументы (не ўсім дазвалялася карыстацца імі) былі. Трэба намагацца дастаць аўтабіяграфію А. Луцкевіча з актаў НКУС.

**АЛЯКСАНДРА БЕРГМАН**

## СПРЫЯЦЬ ГАСПАДАРЧАЙ ІНІЦЫЯТЫВЕ

( Працяг са стар. 4 )

таксама Ваяводскую ўправу ў Беластоку, а дакладней кажучы — Аддзел рэгіянальнай палітыкі. У сувязі з гэтым сімпозіумам накіравалі мы вось такі ліст дырэктару Аддзела рэгіянальнай палітыкі спадарыні Данўце Завадскай:

*„Гаспадарчы гурт Беларускага дэмакратычнага аб'яднання і Управа суполкі „Амега" паведамляюць, што вядзецца праца над арганізацыяй сімпозіума на тэму гаспадарча-гандлёвага супрацоўніцтва з Беларускай Рэспублікай. Згодна з ранейшымі дамовамі сімпозіум адбудзецца ў Менску і быў бы нагодай дзеля ажыўлення эканамічных кантактаў нашага ваяводства з Беларуссю. Праект гэты быў прадстаўлены адпаведным урадавым кругам у Менску, якія яго акцэптавалі(...)*

*На нашу думку, самым істотным элементам сімпозіума было б стварэнне магчымасці непасрэдных кантактаў гаспадарчых кругоў Беларусі з польскімі бізнесменамі (...)*

*Зацікаўленыя ўдзелам у сімпозіуме фірмы просім надсылаць свае прапановы на адрас суполкі „Амега". Прапанова павінна змяшчаць назву, адрас фірмы ды кароткую інфармацыю пра дзейнасць і лінію зацікаўленасці фірмы беларускім рынкам(...)"*

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

( Працяг са стар. 4 )

## УХАПІЦЬ, ДЗЕ ДАСЦА

праграму, і выказванні мастакоў, калі б не ведаў некаторых з іх асабіста.

Ну, але толькі карова не мяняе сваіх поглядаў, як некаторыя гавораць. Маглі змяніць іх і гэтыя мастакі. У праграме ж яны выразна называлі сябе палякамі і не мелі ніякіх цяжкасцяў з самавызначэннем. Таму і прынялі ўдзел у выставе польскага мастацтва. Не было для іх таксама ніякага клопату самавызначыцца вясною, калі у Варшаве арганізавалася выстава беларускага мастацтва. Яны і ў ёй прынялі ўдзел.

Многа гаварылася як на адной, так і на другой выставе пра ідэі еднасці, пагаднення праз мастацтва. Мне выдаецца, што прынамсі некаторыя пакланяліся іншай ідэі: ухапіць, дзе дасца і што дасца. Шкада, што гэта былі якраз мастакі з Беларусі.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Летні ўспамін.

*Вершы Віктара Шведа*

### ВАДАСПАД

З татам Ваня скорым
Паехаў у горы.
Са скальных каскад
Мчаўся вадаспад.
— Дык шкода ж вады, —
Падумаў тады.
І крыкнуў Іван:
— Закруціце кран!

### ДАСКАНАЛЫ ВУЧАНЬ

—Настаўніца сказала:
„Ты вучань дасканалы!"
Тата паціснуў плячыма:
— Дык гэта ж немагчыма!
А што сказала потым?
— Мне задала работу,
Каб гэтыя я словы
Даў на англійскай мове.

### ДВОЕЧНІК

Бацька вольнаю хвілінай
Праглядае дзённік сына.
Знерваваўся моцна гэтак —
Двойкі па усіх прадметах.
Аж вылазяць з вачэй зрэнкі —
Па фізіцы няма ацэнкі.
Адазваўся сынок з жалем:
— Па фізіцы шчэ не пыталі.

### НЯМА НАС СТОЛЬКІ Ў КЛАСЕ

— Па матэматыцы слабы ваш клас,
Вы занядбаліся дашчэнту.
І двойкі атрымала з вас
Аж шэсцьдзесят працэнтаў.

— Ды гэта немагчымае, далібог, —
Пярэчыць нечакана Колька. —
Як матэматык палічыць так мог?
У класе нас няма аж столькі.



## СМЯШЫНКА

У пакоі зазваніў тэлефон.

— Дзеду, прыходзь хутчэй! — узрадаваўся Ціліпок, пачуўшы ў трубцы знаёмы голас.
Ён шморгаў носам, выцер слёзы.

— Цябе нехта пакрыўдзіў? — занепакоіўся дзядуля. — Не? Ага, ты проста згубіў смяшынку.

— Нічога я не губляў, — сказаў Піліпок, і слёзы зноў нацяклі з вачэй. — Пабудаваў дом з кубікаў. Але лялька ў дзверы не пралазіць. А Мікітка не хоча памагчы. Сядзіць і піша.

— Не пралазіць, кажаш? — перапытаў дзядуля. — Гэта не бяда. Мы з табой вось што зробім: здымем дах, пасадзім ляльку зверху.

Піліпок кінуўся да свайго дома. Праз колькі хвілін ён ужо крычаў у трубку:

— Паглядзі, дзеду, залезла!

— Бачу, унучак. А смяшынкі не знайшоў? Ці не схавалася яна з тваімі цацкамі, раскіданымі па хаце? Збяры іх і складзі ў сваю шафку.
Піліпок хуценька прыбраў цацкі, узяў трубку:

— Дзеду, не відаць смяшынкі.

— А можа, яна ў кветках хаваецца? Палі вазоны, паглядзім, ці там смяшынка.

Піліпок набраў у кубак вады, паліў кветкі. На стале ён убачыў свой сшытак, у якім напісаў тры словы: мама, тата, мір. Узяў сшытак, вярнуўся да тэлефона.

— Дзеду, я ўчора пяцёрку атрымаў, — пахваліўся ён. — Па пісьме. Бачыш, якая вялікая!

— О, як прыгожа ты пішаш, унучак! — сказаў дзядуля і засмяяўся. — Не горш за Мікітку.

Задаволены Піліпок таксама засмяяўся. А ў трубцы зноў пачуўся дзядулеў голас:

— Дык вось дзе хавалася смяшынка. У тваім сшытку.

АНАТОЛЬ СІЛЯНКОЎ



*Куды схавалася смяшынка?*

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Казімір Камейша

### ДЗІВАКІ

Адкуль дзівакі вось такія
Бяруцца?
Катаецца кот
На лімоннай шкарлупцы.
Катаецца цень
На рудым пыласосе.
А муха-гадуха
На Пецевым носе.
Катаецца, гляньце,
На цёплай дзяружцы
Падушка на Пецю,
А ён — на падушцы.

### КУДЫ ЗАЕХАЎ ВУСЕНЬ

Ехаў вусень —
Не, не ў сне! —
На капусным качане.
Позні час
Ці ранні час —
Цяжка коціцца качан.
Стогнуць і скрыпяць лісты.
Брыдка ад такой язды.
На гароднім той вярсце
Шустры хтось пратупацеў.
Штосьці чмыхаў:
Чмых ды чмых.
Быў качан з найхуткіх тых.
— Нейкі шэры ён, аднак,
Бачна, што качан не наш.
Я ж не еду, а цягнуся.
Перасяду, — кажа вусень.
Як на новы сеў качан,
Пацямнела у вачах.
Па бульбоўніку за грады
Той качан памчаўся раптам.
Не лісцё на ім — калючкі.
Ездаку пякло пякуча.
І калючы той качан
Проста ў лес яго імчаў.
Быў яздок і сам не рад:
„Трэба быць далей ад град".



Алаіза Пашкевіч (Цётка)

### З ПРЫСКУ ДЫ Ў АГОНЬ

Аднаго разу вёз гаспадар збожжа да млына. Па дарозе крыху рассыпаў. Угледзелі гэта галубы, прыляцелі і давай кляваць зярняты. Якраз на тое прыбег пявун, разагнаў галубоў і сам пачаў дзюбаць. Галубы дужа зазлавалі дый кажуць: „Мы табе шальмоўства такога не даруем, паскардзімся каму трэба".

Прыляцелі да каршуна і давай пеўня чаўпці. А каршуну была на руку гэта скарга; ён скарыстаў яе і расправіўся пасвойму: спачатку з'еў пеўня, а после закусіў галубамі.




— Як доўга ты адсутнічаў? — пытае настаўнік гісторыі вучня, які праляжаў з пераломам нагі ў бальніцы.
— З трыццацігадовай вайны.

*

Настаўнік батанікі пытае пяцікласніка:
— Як размнажаюцца расліны?
— Расліны? Вось пра іх якраз не ведаю...

*

— Скажы, ці ёсць у вас у класе вучні лепшыя за цябе? — грозна пытаецца ў сына бацька.
— Ёсць, — уздыхае хлопчык. — Адзін хлопец у нас вельмі добра варушыць вушамі.

*

— Навошта Ной узяў у свой каўчэг усякай твары па пары? — пытае настаўнік на ўроку гісторыі.
— Я думаю, таму што не спадзяваўся на бусла, — сказаў маленькі Эдгар пасля доўгага маўчання ў класе.

В.Б.

**Казімір Камейша**

### ЗАГАДКІ

Адкрываю скрынку я —
Выпаўзла з яе змяя.
А змяя грымучая
І яшчэ паўзучая.
Пастаралася змяя —
Хата чыстая мая.

На адным каромысле
Застылі два вядры.
Адно прывыкла слухаць,
Другое — гаварыць.

Плача і вые,
Гуляе па полі.
Толькі ў рукі
Не возьмеш ніколі.

Стаяў і быў
Да неба, рослы.
Цяпер стаю,
З травою роўны.

Вачанятак ціхіх пяць
З адной шчылінкі глядзяць.

*Адгадак шукай на старонках „Зоркі"*





**************************************************

**Бабаніяз Каюмаў**

### ЧАМУ РЫБКІ МАЎЧАЦЬ?

У дзень нараджэння Умыду падарылі акварыум. Хлопчык зняў ад радасці. Увесь час ён назіраў за рыбкамі, карміў іх, выганяў ката, калі той заходзіў у пакой, дзе стаяў акварыум.

Аднак хутка ўсё гэта надакучыла Умыду, і ён спытаў:

— Тата, калі зноў будзе мой дзень нараджэння?

— У наступным годзе, сынок.

— А наступны год калі будзе?

— Праз сем месяцаў.

— Раз, два, тры... — пачаў Умыд згінаць пальчыкі. — Сем. Ой, як доўга чакаць! Я хутчэй хачу.

— Чаму?

— Хачу, каб мне падарылі сабачку.

— У цябе ж ёсць рыбкі.

— Яны сумныя. Я ўвесь час гавару з імі, а яны маўчаць. — І, падумаўшы, Умыд дадаў: — Відаць таму, што іх пагладзіць нельга.

*З туркменскай мовы пераклаў Павел Кавалёў.*

Адгадкі: струк, дрэва і пень, вецер, тэлефон, пыласос.

**Беларускія гульні**

### КУЛЮКУШКІ

Удзельнікі мераюцца па палцы і выбіраюць кулюкуванніка. Ён садзіцца ў пэўным месцы і зажмурвае вочы. Астатнія ў гэты час хаваюцца. Праз некалькі хвілін кулюкуваннік крычыць:

— Ці год?

Калі хто не паспеў схавацца, адказвае:

— Яшчэ не!

У адваротным выпадку ўсе маўчаць, каб не выдаць, хто дзе схаваўся.

Тады кулюкуваннік расплюшчвае вочы і ідзе шукаць. Калі знойдзе кагонебудзь з ігракоў, вядзе на тое месца, дзе кулюкаваў. Той павінен там застацца. Кулюкуваннік шукае астатніх і, калі ўсіх знойдзе, кулюкаваць застаецца той, каго знайшлі першым.

## *Вершы пра родную мову*

### НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА

Радасць жаўранкам звоніць
над хмарамі,
хай не згледжу яе, не збяру...
Дні насталі важкія, змагарныя,
зноў
спрабуе расці
Беларусь.
Зноў спрабуе,
і з думкамі нашымі,
з дзіўнай, кволаю музыкай слоў...
Слоў,
што кпілі з іх ворагі, страшылі,
што ледзь ветрам іх не замяло.
Наша ж мова —
цудоўная, спеўная,
ўмее спелым калоссем шумець,
галасіць навальніцай улеўнаю,
вераснёваю меддзю звінець.
Мова наша —
выкутая з золата — не іржавее,
блішчыць,
зіхаціць.
Гэта мова паэтаў і волатаў,
скарб, які нас трымаў пры жыцці.
Каб не мова,
даўно б мы растаялі,
расплыліся б імглой між чужых,
збеглі ў вырай гусінаю стаяю...
Але з мовай —
і мы будзем жыць.
Будзем жыць!
Днямі яснымі, новымі,
пойдзем, пойдзем з табою ў гару,
наша жытняя
і васільковая,
несмяротная Беларусь!

### МАРЫЯ ШАЎЧОНАК

Сцвярджаць, вядома, не бяруся,
Што след вядзе ад тых імён,
Але асілкі Белай Русі
Былі вядомы з даўніх дзён.
Ці не таму ад слова „сіла"
Маё бацькоўскае імя,
Хоць не арала, не касіла
І як былінаchка сама?
Хоць зведаць выпала нямала
Выпрабаванняў і трывог,
Ды я ніколі не шукала
Лягчэйшых сцежак і дарог.
Мне слову бацькаваму здрадзіць
Ні час, ні гонар не даюць.
І на зямлі яго, бы ў садзе,
Праз вёсны жаўранкі пяюць.

# ЗАЙЧЫКІ



**беларуская казка**

Селі два зайкі ў лясочку пад бярэзінкаю, грэюцца на сонейку і гутараць.

А ў лясочку так добранька!.. Мушкі гудуць, адна за адною ганяюцца, крыльцамі звоняць, як бы смяюцца. А там дроздзік пасвіствае, хлопчыка Пілiпку падражнівае:

— Пюліп, Пюліп!

А Пілiпка на верасочку з кошыкам ходзіць, на баравічкі прыглядаецца.

Яшчэ далей зязюлька кукуе. Ну, так ясна, цёпла, весела!

Але не весела зайчыкам, невясёлыя гутаркі іх.

— Ох, якая горкая долечка наша! — кажа адзін зайчык. — Бойся кожны дзянёчак, трасіся кожную часінку, прыслухоўвайся, ці не ходзіць вораг твой блізка.

— А колькі ў нас ворагаў! Хто толькі не крыўдзіць нас, бедных зайчыкаў! Крыўдзяць нас людзі, крыўдзяць звяры, нават птушкі-драпежнікі — каршуны, совы, пугачы — і тыя нас, зайчыкаў, ушчуваюць.

— І як бараніцца нам ад злых нашых ворагаў? Чым ратавацца? Адна толькі надзея на нашы ножкі: выбавяць з бяды — наша шчасце, не выбавяць — прапала наша скурка!

І заплакалі горкенька зайчыкі.

Плачуць і слёзы лапкамі выціраюць.

— Ці не можна нам жыць на свеце? — кажа другі зайчык. — Ніхто не баіцца нас, — ну ніхтосенькі!.. Пойдзем, хіба, ды ў ваду кінемся!

Наплакаліся, надумаліся бедныя зайчыкі і пайшлі ў возера тапіцца з гора.

Прыйшлі да возера, прыпыніліся, развіталіся. Да самага беражка падышлі, каб у ваду кінуцца, аж бачаць — скок жаба на купінку: убачыла зайчыкаў і спалохалася.

— Эгэ, — кажа адзін зайчык, — ёсць жа на свеце стварэнні, што і нас баяцца. Відаць, ім яшчэ цяжэй на свеце жыць.

Глянулі зайчыкі адзін на другога і пабеглі назад у лясок.

**************************************************






* * *

Беларусь, 222310, Маладзечна, вул. Міра, д. 40, кв. 2, **Сяргей Руслан**

* * *

Беларусь, 246029, г. Гомель, вул. Валгаградская, д. 39, кв. 18, **Кліменкава Ірына** (12 гадоў).

* * *

СССР, 346374, Ростовская обл., Кр.-Суменский р-он, х. Пролетарка, ул. Садовая, 37, **Жабарова Наталья** (15 гадоў).




А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А

У кожнай фігуры ёсць адпаведны цень, але ў адной яго няма, а ў аднаго ценя няма фігуры. Ці знойдзеш іх?




З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.

— 48 —

Найвыдатнейшымі членамі народнага камітэта былі: Ярэміч Фабіян, ксёндз Станкевіч Адам, дырэктар беларускай гімназіі Кахановіч Міхал, паэт (павінна быць празаік — А.Б.), Гарэцкі Максім, Карабач Аляксандр.

Беларускі народны камітэт вёў цэласць дзеянняў культурна-асветных і эканамічных. Філіялы „Віленскага саюза каапэратываў" з'яўляліся арганізацыйнай часткай камітэта. Саюз быў сур'ёзнай фінансавай установай, якая імкнулася да апанавання цэласці эканамічнага жыцця Віленшчыны.

На чале Саюза стаяў Чыжэўскі — былы рускі каапэратывіст, які меў мала супольнага з беларускім нацыянальным рухам. Пры яго дапамозе ўдалося камуністычнай групе Русецкага, Тарэшчанкі супольна з утвораным імі „Саюзам сельскай гаспадаркі" дасягнуць там пэўных уплываў.

У часе выбараў у 1921 годзе ў Саюз каапэратываў, у сувязі з моцнай апазіцыяй, Чыжэўскі як бы сышоў са сцэны. У праўленне ўвайшлі: як старшыня інжынер Трэпка, як члены: Смоліч, Сталыгва, Пятровіч (літовец), Чыжэўскі, Буцко і Антон Луцкевіч.

З палякаў быў выбраны Бабянскі, аднак зрокся, і Пётр Пяткевіч, старшыня свяцянскага Сейміка, адзін з лідэраў Адраджэння.

Другім абшарам дзейнасці камітэта былі школы. Беларускае школьніцтва ў гэтым часе ў значнай ступені было апанавана рускімі, якія ўдавалі беларусаў і ўтрымлівалі кантакты з Савінкавым.

Трэба, аднак, адзначыць, што беларусы, асабліва афіцыйны загадчык беларускага школьніцтва Тарашкевіч, шчыра і сур'ёзна змагаліся з русіфікатарскім элементам на тэрыторыі Цэнтральнай Літвы, дзе знаходзілася 135 беларускіх школ. У перыяд існавання Цэнтральнай Літвы камітэт пачаў пашыраць свае уплывы на Латгалію і ўтрымліваў бліжэйшыя адносіны з польскай народнай партыяй „Адраджэнне".

Апрача Беларускага народнага камітэта існавала Вышэйшая Рада, якая ўзнікла ў выніку расколу ў часе з'езда ў Менску Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў лістападзе 1919 г. Афіцыйна, як такая, Вышэйшая Рада амаль не існавала на тэрыторыі Цэнтральнай Літвы. Членамі яе былі: Рак-Міхайлоўскі, маёр Якубецкі, інжынер Трэпка, Браніслаў Тарашкевіч, праф. Вацлаў Іваноўскі, Аркадзь Смоліч, Антон Луцкевіч, Яўген Ладнаў. Асобы гэтыя, рассеяныя па розных беларускіх установах і пляцоўках, аказвалі значны ўплыў на нацыянальныя дзеянні і палітычныя пераўтварэнні, выступалі, аднак, рэдка (толькі з замежных пляцоўках) з мандатамі Вышэйшай Рады.

Палітычны напрамак Вышэйшай Рады можа быць акрэслены як прыязны ў адносінах да Польшчы, у кожным выпадку антылітоўскі і антынямецкі.

*(Працяг будзе)*




Сэрцайка! Я пасварылася з сяброўкай. Не скажу, што была яна маёй найсардэчнейшай сяброўкай, але я яе даволі любіла, бо была вельмі вясёлай у кампаніі і ўмела гуртаваць вакол сябе хлопцаў. Калі прыходзіла яна, заўсёды ва ўсіх папраўляўся настрой, хлопцы зараз беглі па віно і мы нешта арганізоўвалі.

Аднойчы мы з ёю пайшлі ў кавярню. Сядзелі даволі доўга, але нікога са знаёмых не было. Сумныя, мы хацелі ўжо вяртацца дахаты, але тут падселі да нас нейкія даволі маладыя яшчэ мужчыны. Аднаго з іх я крыху ведала.

Мы яшчэ крыху пасядзелі, выпілі віна, якое нам паставілі гэтыя мужчыны, і стала весела. Калі кавярню пачалі зачыняць, мужчыны запрапанавалі нам прадоўжыць забаву ў хаце гэтага майго знаёмага. Я ведала, што чалавек гэты жанаты, і вельмі здзівілася, што ён нас запрасіў да сябе. Высветлілася, што яго жонка з дзецьмі выехала да сваіх бацькоў у Гдыню, і можна смела ісці да іх, бо і так адна з маленькімі дзецьмі (адно груднoе) не прыедзе, а будзе чакаць, пакуль ён не забярэ яе.

І так забава прадаўжалася ў больш зацішнай атмасферы.

Мы ізноў выпівалі, знайшлася і закуска. Было вельмі прыемна. Аднак жа нашы „хлопцы", калі разагрэліся, пачалі прысоўвацца ўсё бліжэй. Але неяк так склалася, што абодва туліліся да мяне, а мая гаманкая сяброўка сядзела адна. Мой знаёмы пачаў мяне цалаваць. Было нават прыемна.

Пасля мы апынуліся ў ложку (не дзеці ж!), а калі выйшлі са спальні, другі мужчына сядзеў пры стале з панурай мінай, а побач сядзела мая сяброўка. Маўчалі.

Мы пайшлі дахаты. Я нічога кепскага не спадзявалася. А праз некалькі дзён прыйшоў да мяне ў школу той знаёмы мужчына і кажа, што жонка заўважыла ў сваім гардэробе прапажу. Прапаў яе каўнер з ліса. Знаёмы мне сказаў, што ён мяне не падазравае, але, можа, гэта зрабіла мая сяброўка, бо нікога ж у яго больш не было... У хаце страшны скандал, мо, каб каўнер знайшоўся, то хаця крыху паспакайнела б.

Мяне прыбіла гэта справа зусім. Няўжо мая сяброўка зладзейка? Навошта ёй гэта было, у яе ж усяго поўна!

**Галіна**

Мілая мая! Ад калі гэта людзей, з якімі спяць, называюць проста „знаёмымі"? Ці цяпер мода такая?

Твая сяброўка, якая, відаць, спадзявалася правесці вечар таксама весела, як і ты, узлавалася, што ты мела большы поспех. Выклікаўшы скандал у сувязі з пакражай каўнера з ліса, яна, пэўна, адчула тую роскаш, якой не дазнала ў спальні твайго „знаёмага".

**СЭРЦАЙКА**




### СМАЖАНЫЯ ЗЯЛЁНКІ

На кілаграм зялёнак (капелюшоў) трэба ўзяць каля 3 лыжак мукі, 10 дэкаў шмальцу, соль і перац.

Зялёнкі пачысціць, абрэзаць карэньчыкі (можна іх выкарыстаць для соусу ці супу). Капелюшы старанна памыць, змяняючы шмат разоў ваду, паколькі ў зялёнках, як правіла, бывае шмат пяску. Грыбы асушыць, пасля чаго пасыпаць прасеянай мукой. Смажыць, кладучы на патэльню з разагрэтым шмальцам. Калі падсмажацца, пасыпаць соллю і перцам. Дасмажыць на малым агні. Падаваць адразу ж як асобную страву ці як дадатак да мясных ці рыбных страў.

### СТРАВА З ГРЫБОЎ І ЯЕК

На 1 кг мешаных грыбоў (зялёнак і апенек), трэба ўзяць 6 крутых яек, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі, 5 дэкаў шмальцу, паўлыжкі масла, 1 лыжку мукі, паўшклянкі смятаны, соль і перац па смаку.

Грыбы памыць (пачысціўшы перад гэтым), дробна нашаткаваць, палажыць у каструльку з разагрэтым шмальцам, памешваючы, крыху падсмажыць, пасаліць, пасыпаць перцам, спырснуць вадой і стушыць. Муку прасеяць, перамяшаць са смятанай, уліць у грыбы, закіпяціць, зняць з агню і перамяшаць з пасечанымі яйкамі і зялёнай пятрушкай. Праверыць смак, калі трэба, дадаць солі і перцу.

Можна падаваць гэту страву з макаронам, вараным рысам ці бульбай і салатай.

### ЗАПЯКАНЫЯ АПЕНЬКІ

На кілаграм апенек трэба ўзяць 2 вялікія цыбуліны, 5 лыжак алею, паўлыжкі масла,1 лыжку мукі, 1 шклянку малака, 1/3 шклянкі сцертага жоўтага сыру, паўшклянкі смятаны, соль і перац, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі, 2 лыжкі цертай булкі.

Апенькі перабраць, памыць, старанна асушыць. Абабраць цыбулю, нарэзаць яе пер'ямі і крыху падсмажыць на алеі. Грыбы нарэзаць, дадаць да падсмажанай цыбулі, пасыпаць соллю, дадаць масла.

Тушыць пад пакрыўкай, спырскваючы пакрысе вадою. У часе тушэння грыбы некалькі разоў мяшаць, сочачы, каб не прысталі да дна. Прасеяную муку развесці некалькімі лыжкамі халоднага малака. Рэшту малака закіпяціць, у кіпецень уліць разведзеную муку і памешваць, а калі закіпіць, зняць з агню, перамяшаць са сцертым сырам і смятанай, дадаць па смаку солі і перцу. Стушаныя грыбы палажыць у вогнетрывалы посуд, заліць соусам, пасыпаць цертай булкай. Уставіць у духоўку і запячы.

Ядуць запяканку гарачай, перад падачай пасыпаўшы пасечанай зялёнай пятрушкай і аблажыўшы варанымі яйкамі.

### САЛАТКА З КВАШАНЫХ РЫЖЫКАЎ

На адну шклянку квашаных рыжыкаў трэба ўзяць 2 цыбуліны, 1 яблык, 3 лыжкі алею, цукар, соль, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі.

Квашаныя рыжыкі адцадзіць, нарэзаць тоненькімі палосачкамі. Цыбулю абабраць, дробна пасячы, перамяшаць з алеем. Пасыпаць соллю. Дадаць пасечаны яблык. Усё перамяшаць з рыжыкамі. Заправіць па смаку цукрам, і па меры патрэбы соллю. Гатовую салату палажыць у місачку, пасыпаць зверху зялёнай пятрушкай. Аздобіць лісткамі салаты і памідорамі, або чырвонай папрыкай.

**ГАСПАДЫНЯ**




Дарагі Астроне!

Уваходжу ў бальніцу і сустракаю сваю знаёмую з працы. І так сабе думаю: што гэта сталася? Заўсёды яна была элегантная, займала высокую пасаду, а цяпер стала прыбіральшчыцай. Гляджу на яе, а яна апранута ва ўсё чорнае, стаіць з мятлою і замятае смецце. Выгляд яе не вельмі цікавы, нейкая яна змучаная, спацеўшая і без аднаго зуба. Я запытала ў яе, што яна тут робіць, працуе тут ці што? А яна мне адказала, што працу ў бальніцы залатвіў ёй яе зяць. Больш мы не гаварылі; я на яе гляджу, а яна пратала. Што гэта можа абазначаць?

**Галіна**

Астронку! Мне прыснілася, быццам прыехаў да мяне знаёмы. Ён жыве ў іншым горадзе, а ў Беласток прыехаў за пакупкамі. Ён загружаны рознымі пакункамі, а з усіх гэтых пакункаў выглядае вельмі прыгожы аксаміт. Знаёмы мне кажа, што вось купіў, маўляў, аксаміт, бо хочуць пашыць з яго новыя шторы на вокны. Я гляджу, а гэты аксаміт вельмі прыгожы, з вялікім густам падабраны колеры да сцэнаў розных пакояў. Што можа абазначаць мой нештадзённы сон?

**Аня**

Галіна! Нешта кепскае здарыцца ў тваёй знаёмай, якая табе прыснілася. Не абміне яе нейкая непрыемнасць (тое смецце). Магчыма, што будзе гэта хвароба некага з яе блізкіх, а можа нават смерць. Яна ж была ў чорным, замятала (нехта вымецецца назаўсёды), а на дадатак была без зуба. Адзіная пацеха для яе ў тым, што дзеялася ўсё ў бальніцы, а гэта яшчэ дае нейкі шанц на добры выхад справы.

Аня! Твой сон прадвяшчае табе вельмі прыемнае і элегантнае падарожжа.

**АСТРОН**

### ПЕРАДАЧЫ БЕЛАРУСКАГА ВЫБАРЧАГА КАМІТЭТА

У сувязі з тым, што Беларускі выбарчы камітэт зарэгістраваў спіскі сваіх кандыдатаў у Сейм у больш, чым адной выбарчай акрузе, атрымаў ён у агульнапольскім радыё час дзеля прэзентацыі сваіх кандыдатаў і сваёй выбарчай праграмы. Вось даты і гадзіны перадач Беларускага выбарчага камітэта:

**1-ая праграма агульнапольскага радыё (доўгія хвалі):**
5.10.91 — 10.30
8.10.91 — 17.30
12.10.91 — 17.30
14.10.91 — 10.30
14.10.91 — 17.30
22.10.91 — 17.30
25.10.91 — 10.30

**2-ая праграма (УКХ):**
12.10.91 — 15.25
21.10.91 — 16.30

**3-яя праграма (УКХ):**
15.10.91 — 18.30
19.10.91 — 6.45
19.10.91 — 18.30

**4-ая праграма (сярэднія хвалі):**
8.10.91 — 12.35
23.10.91 — 12.35

**(ам)**

## ПРА ВАСЬКУ І ЧАПАЕВА

Прачынаецца ноччу Васіль Ваныч на печцы, апускае галаву і бачыць: Пецька сядзіць за сталом і піша. Але так піша, што аж плечы хадуном ходзяць.

— Ты што, Пецька, пішаш?

— Оперу пішу, Васіль Ваныч.

— Ого, а ты можаш оперу напісаць?

— Магу, — скромна адказвае Пецька, не пакідаючы пісаць.

Васіль Ваныч крыху паляжаў, падумаў, потым зноў апусціў галаву:

— А пра каго ты пішаш?

— Пра Анку, пра Фурманава, — тут Пецька падняўся, — пра вас, Васіль Ваныч.

— Угу, — Васіль Ваныч зноў крыху падумаў і гаворыць:

— Слухай, Пецька, а табе нельга пра мяне больш напісаць?

— Можна, — сказаў Пецька і далей піша.

Васіль Ваныч яшчэ крыху падумаў:

— Слухай Пецька, а ты можаш толькі пра мяне аднаго напісаць?

— Не магу, Васіль Ваныч, — адказаў Пецька, — „опер" сказаў, каб я пра ўсіх напісаў.

* * *

Пецька з Васілём Ванычам пайшлі ў лазню. Пецька мые мачалкай плечы Васілю Ванычу:

— Ха-а, вось і майка, а ты, Васіль Ваныч, гаварыў, што ў цябе яе ўкралі.

* * *

Васіль Ваныч, Пецька і Анка выратоўваюцца ад белых. Забеглі ў нейкі дом і хаваюцца пад печку. Васіль Ваныч пралез, Пецька пралез, а Анка ўвязла. Рванулася туды-сюды, не пралазіць. Крычыць:

— Васіль Ваныч, таз у мяне не пралазіць!

А той адказвае:

— Пакінь ты яго, я табе на базары новы куплю.

* * *

Васіль Ваныч пытаецца ў касе Аэрафлота:

— Колькі ляціць самалёт да Магадана?

— Хвіліначку...

— Дзякую.

* * *

Пецька з Васілём Ванычам падыходзяць да начальніка цягніка:

— Гэты цягнік давязе мяне да Ленінграда?

— Давязе.

— А мяне? — пытаецца Васіль Ваныч.

* * *

Васіль Ваныч разам з Пецькам пільнуюць граніцу. Раптам нейкі чалавек пераходзіць граніцу.

— Пецька, запытай у яго пароль.

— Эй, ты, скажы пароль.

— Пароль.

— Прахадзі!

* * *

— Пецька, што ты зараз чытаеш? Пакажы.

— Вось кніжка, Васіль Ваныч.

— Так, А. С. Пушкін. Пра лётчыкаў гэта ці што?





*Мал. З. Юйкі („Карузеля")*

## БЛУКАННІ

**Захацеў выпіць кавы. Іду ў кавярню.**

**— Кава ёсць?**

**— Ёсць.**

**— Адзін кубачак. Памацней.**

**— Цукру няма.**

**Пасунуўся далей.**

**— Кава і цукар ёсць?**

**— Ёсць.**

**— Наліце. Пабаўлюся.**

**— Вады няма. Адключылі.**

**Паімчаў у рэстаран.**

**— Можаце прапанаваць кубачак кавы?**

**— Не можам. Сёння серада. Зала занятая. Рэкецёры бясплатна абедаюць.**

**Паплёўся дадому. Чай піць. Заварка ёсць. Вада ёсць. Адкрыў газ. Газ ёсць. Пачаў шукаць запалкі. Запалак няма. Скончыліся. Пабег па запалкі.**

**— Скажыце, запалкі ёсць?**

**— Ха! Ужо тыдзень не давозяць.**

**Зноў у кавярню.**

**— Кава ёсць?**

**— Ёсць.**

**— А вада і цукар?**

**— Ёсць.**

**— Адну двайную зрабіце.**

**— Не магу. Кубкі няма каму мыць. Пасудамыйка звольнілася.**

**Пайшоў дадому. Чай піць. Без запалак.**

**ЯЎГЕН КАСЦЮК**

З украінскай пераклаў **Валеры Бабей.**

## ПАД ЗОРКАЮ ПАГОНІ

*Музыка Д. Яўтуховіча Верш Л. Пранчака*



Жыццё мяне па свеце паматала.
Душа спазнала ростані прымус.
О, як цябе мне моцна не хапала,
Пакутная радзіма — Беларусь!

**ПРЫПЕЎ:**

Ляцяць, ляцяць майго
маленства коні.
Забудзь самоту, надзею не згубі!
Пад сонцам дабрыні, пад
зоркаю пагоні
Кахай мяне, кахай! Любі
мяне, любі!

Пакуль я вандраваў, лісцё апала.
Пустынны лес, нібы душа мая.
О, як цябе мне моцна не хапала —
Матуля пасівелая мая.

**ПРЫПЕЎ.**

Мяне твая спагада ратавала.
Каханая, я вобраз твой зьберог.
О, як цябе мне моцна не хапала —
На ростанях расхрыстаных дарог.

**ПРЫПЕЎ.**

## КАСЯК НА „А"



**Управа:** 1) сістэма літар, 2) найвышэйшыя ў Амерыцы, 3) зялёны ў моры пяскоў, 5) перажытак мінулага, 7) ліквідацыя смецця, бруду, 10) часовае карыстанне нерухомай маёмасцю, 12) расліна-паразіт на галінах дрэва, 13) птушка ў гербе.

**Улева:** 1) фігура з крывой, а калі чытаць наадварот, дык прадмет сялянскай мэблі або вулканічная маса, 2) „чорны" кантынент, 4) твар, агульны вонкавы выгляд, 6) вада з наварам таго, што ў ёй варылася (2 у сярэдзіне), 8) усходзіць на полі восенню, 9) асенняя кветка, 11) жрэц або месца, дзе ён прарочыў, 14) імя Пугачовай.

**„ядань"**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з н-ра 34:** махляр, мачаха, задача, арэнда, афіцэр, сандал, сатана, статак, нацыск, царыца, Нанкін, лганне, Гамлет, магіла, лысіна, Панама, змагар, манера, маліна, ланцуг.

********************************************************************




„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. *Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na I kwartał 1992 r. upływa 20 listopada 1991 r.
2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 2.500 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
- październik - 10.000 zł.
- listopad - 10. 000 zł.
- grudzień - 12 500 zł

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.